


# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

10 жніўня 2018 года №32 (1215)


**Віляйчане звярнуліся ў Мінаблвыканкам і Камітэт дзяржкантролю з нагоды кепскага стану дарог.**

старонка 2

# Хлопец з Маладзечна праехаў аўтаспынам каля 7000 кіламетраў

**Сяргей Шабуня вандраваў па Грузіі, Турцыі, Расіі і Беларусі**

старонкі 20-21

Фота Таццяны КАСЬЯН.



ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Маладзечанец на Ашмяншчыне злавіў 28-кілаграмовую рыбу

**АШМЯНЫ**
**МАЛАДЗЕЧНА**

Таўсталобік вагой 28 кілаграмаў і даўжынёй 125 сантыметраў – такі ўлоў рыбака Мікалая Шыцка з Маладзечна на возеры ў вёсцы Альковічы.

На выхадныя яго сям'я з сябрамі пастаянна прыязджае на Ашмяншчыну не толькі адпачыць, але і парыбачыць. На гэты раз удача паднесла падарунак у выглядзе рыбы-волата.

– Гэта мой першы такі вялікі ўлоў, раней былі толькі амуры і карпы па 14 кілаграмаў. У пяць гадзін раніцы, 6 жніўня, пайшла брацца рыба, – распавядае рыбак. – Я адразу зразумеў, што дзяўбе нешта вялікае, падумаў, што шчупак. Разам з сябрам Дзянісам Магазіннікавым, які рыбачыў побач, выцягвалі здабычу 30 хвілін на дзве вуды.

У паядынку рыбакі ўсё ж адолелі рыбу і паднялі яе з вады.

**Пводле osh.by.**

## Беларусы выйгралі чэмпіянат свету лесарубаў у Нарвегіі. У камандзе – віляйчанін

**ВІЛЕЙКА**

Каманда вальшчыкаў з Беларусі ў складзе Валерыя Дуровіча, Сяргея Шкудрова і Віктара Зарэмбы пад кіраўніцтвам Уладзіміра Шута выйграла чэмпіянат свету сярод лесарубаў, які прайшоў у Лілехамеры (Нарвегія) 2-5 жніўня.

Адзін з членаў каманды Беларусі, **Валеры Дуровіч**, працуе ў Вілейскім доследным лясгасе.

У спаборніцтвах бралі ўдзел прадстаўнікі 27 краін.

У 2016 зборная Беларусі першы раз у гісторыі заваявала тытул чэмпіёна свету сярод лесарубаў. У Лілехамеры каманда паўтарыла поспех, распавялі «Рэгіянальнай газеце» ў прэс-службе Міністэрства лясной гаспадаркі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## 18 жніўня зладзяць свята «Бабровая хатка»

**АШМЯНЫ**

Яго правядуць на вуліцы Пагірскай ў аграгарадку Каменны Лог. Пачатак а 12-ай.

**У праграме:**

тэатралізаваны пралог «Нашы суседзі – бабры!», тэатралізаваная праграма для дарослых «Вясёлая майстэрня ў Бабра Бабровіча», канцэрт з удзелам народнага тэатра танца і песні «Імпульс», выстава фота-работ інтэрнэт-конкурса.

Будуць працаваць гандлёвыя пункты.

Уваход вольны.

Тэлефон для даведак: +375 (29) 194 16 11

**Аддзел інфармацыі.**

## Мядзел кардынальна зменіцца да «Дажынак». Добраўпарадкуюць і Маладзечна

**МЯДЗЕЛ**
**МАЛАДЗЕЧНА**

Мядзел плануюць маштабна змяніць да правядзення «Дажынак».

Як паведаміў у эфіры тэлеканала «ОНТ» старшыня Мінаблвыканкама **Анатоль Ісачанка**, у горадзе зробяць не проста касметычны рамонт, а прывядуць у парадак многія аб'екты, у тым ліку тратуары, вуліцы, серкі. Таксама будзе праведзены рамонт дахаў і фасадаў дамоў. Стаіць задача стварыць камфортныя ўмовы для пражывання ў горадзе.

У бліжэйшых планах Мінскага аблвыканкама добраўпарадкаваць такія гарады як Маладзечна і Барысаў.

**Паводле BELNOVOSTI.BY.**

## У Валожынскай радзільні з'явіліся новыя сучасныя бранзалеты для немаўлят

**ВАЛОЖЫН**

У апошнія дні ліпеня ў радзільным аддзяленні Валожынскай ЦРБ з'явіліся сучасныя мяккія прарэзіненыя бранзалеты для немаўлят.

– Новымі бранзалетамі замянілі ўсім вядомыя – кавалачкі цыраты на бінце, – распавяла «Рэгіянальнай газеце» загадчыца радзільнага аддзялення Валожынскай ЦРБ **Лілія Гасціловіч**. – Старыя таксама былі зручнымі, аднак новыя выглядаюць больш сучасна і эстэтычна. Да таго ж, па новым бранзалеце адразу бачны пол дзіцяці: для дзяўчынак – яны ружовыя, для хлопчыка – блакітныя.

Да нядаўняга часу такія бранзалеты былі толькі ў буйных радзільнях.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Стан дарог на Талстога і Чапаева не задавальняе жыхароў бліжэйшых дамоў.

# Віляйчане звярнуліся ў Мінаблвыканкам і Дзяржкантроль

**ВІЛЕЙКА**

**Жыхары дамоў 55 і 59 па вуліцы Талстога і дома №72 па вуліцы Чапаева сабралі подпісы за рамонт дарогі ля іх дамоў.**

У сваім звароце жыхары названых вуліц непакояцца пра стан паркоўак, дарог і тратуараў. «Даводзіцца мець справу са шматлікімі ямкамі, разбітымі бардзюрамі, адсутнасцю заездаў для вазкоў, што стварае велізарныя нязручнасці для жыхароў, патрабуе дарагога рамонту машын. Дарогай па вуліцы Чапаева да дома №55 карыстаецца грузавы транспарт, што падвозіць тавары ў магазін. Яшчэ больш разбіваецца асфальтавае пакрыццё».

Спасылаючыся на Закон Рэспублікі Беларусь № 96-З «Аб унясенні зменаў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях прадпрымальніцкай дзейнасці і падаткаабкладання» ад 31 снежня 2013 года, віляйчане просяць прывесці ў належны стан указаныя ўчасткі дарог і прылеглых тэрыторый. Гэта вымагае якаснага рамонту з заменай асфальта і бардзюраў.

Праз пэўны час гараджане атрымалі адказ на свой запыт. У ім адзначана, што супрацоўнікі Вілейскага райвыканкама і ГУП «Вілейскае ЖКГ» выехалі на ўказанае месца і агледзелі ўчасткі дарогі. Факты заявачнікаў пацвердзіліся часткова. Згодна з адказам, спецыялісты заўважылі толькі нязначную ямачнасць асфальта. Ямачны рамонт на гэтым участку праводзілі летась. Сёлета пачалі рамантаваць тратуарную дарожку і пад'ездныя шляхі да дома №72 на Чапаева. Таксама замянілі дзесяць метраў разбітага бардзюра.

Тыя змены, пра якія прасілі заяўнікі, магчымыя толькі падчас капітальнага рамонту вулічна-дарожнай сеткі. А на 2018 год такі рамонт на гэтых участках незапланаваны.

Але сітуацыю ўзялі ў райвыканкаме на кантроль. Калі з'явяцца грошы, у чацвёртым квартале гэтага года на вызначаных участках правядуць ямачны рамонт.

Звярнулі таксама ўвагу заяўнікаў на тое, што згодна з Законам Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 2017 года «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2018 год» размеркаванне выдаткаў фонду, за выключэннем выплат, якія перадаюцца ў кансалідаваныя бюджэты абласцей і Мінска, ажыццяўляе Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі.

– Атрыманы адказ нас не задаволіў, – кажа ўраджэнец Вілейкі **Максім Ціханаў**, актывіст, па ініцыятыве якога жыхары Вілейкі сабралі подпісы і падрыхтавалі запыт. – Мы лічым, што ямачны рамонт не выправіць сітуацыю. А пакуль жыхары дамоў самастойна засыпаюць вялікія ямы на дарозе.

У сувязі з адмоўным адказам Вілейскага райвыканкама віляйчане звярнуліся ў Мінаблвыканкам і Камітэт дзяржкантролю па Мінскай вобласці. Цяпер чакаюць адказу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Вілейшчыне ладзяць першы трохдзённы фестываль «Дом ля возера»

**ВІЛЕЙКА**

**Ад 24 да 26 жніўня ў вёсцы Навасады Нарочскага сельсавета, што на Вілейшчыне, зладзяць трохдзённы фестываль «Дом ля возера».**

У праграме фестывалю – аўтарская музыка, паэзія, кіно, лекцыі на розныя тэмы, эксклюзіўная кухня, пленэр, рыбалка, танцы.

**24 жніўня, пятніца**

17.00 – 19.00 – заезд гасцей.

20.00 – 22.00 – прагляд кіно і яго абмеркаванне

22.30-23.00 – назіранне за зорным небам у тэлескоп (пры ўмове добрага надвор'я).

**25 жніўня, субота**

6.00 – 11.00 – турнір рыбаловаў

12.30 і 17.00 – выстава **Сяргея Шылы** «Мы ў соцыуме»

13.00 – 13.45 – лекцыя Ганны Севярынец «Быць настаўнікам і заставацца чалавекам»

14.00 – 14.45 – лекцыя Алены Васкрасенскай «Чаму простыя правілы шчаслівага жыцця не працуюць»

15.00 – 15.45 – лекцыя Вольгі Угрыновіч «Рамесніцтва як прафесія»

16.00 – 16.45 – лекцыя партала АдукацыяІнфо і выпускнікоў еўрапейскіх ВНУ "Навучанне ў Еўропе і за акіянам"

17.00 – 19.00 – жывая бібліятэка

19.00 – 20.00 – час аўтарскай паэзіі

20.00 – 22.00 – канцэрт аўтарскай музыкі і песні

22.00 – 23.00 – танцы з этнаграфічным клубам «КОЛА»

**26 жніўня, нядзеля**

09.00 – 11.00 – снеданак

11.00 – 13.00 – ад'езд гасцей

Будзе таксама фотавыстава, эка-гульні, кемпінг, футбол, валейбол.

Уваход вольны!

Тэлефон для даведак: **(8-033) 312 -18-12**.

**Аддзел інфармацыі.**




Адзін з атракцыёнаў у маладзечанскім парку.

# Дзе працуюць маладзечанцы ўлетні сезон

МАЛАДЗЕЧНА

**Летнія месяцы атрымаліся на дзіва гарачымі – у спёкі амаль не было выхадных. Як і ў герояў гэтай публікацыі. Яны працуюць у гарачы сезон і замест адпачынку аддаюць перавагу заробку. Мы даведаліся, дзе зарабляюць маладзечанцы летам.**

### Праца – гэта жыццё

У маладзечанскім парку ў ціры працуе **Арцём Сяргееў.** Графік – ад 11 да дзевяці гадзін вечара.

Па адукацыі хлопец тэхнік-праграміст, але работа па спецыяльнасці яму не па душы.

– Што тычыцца працы, яшчэ ў школе ездзіў на бульбу. А калі прыходзіў пасля ўрокаў, па тры гадзіны мадэраваў сайт. У сезон неяк два гады прадаваў кавуны на Лебядзіным рынку, – распавядае Арцём. – Цяпер у розных гарадах краіны праводжу карпаратывы, вяселлі, розныя мерапрыемствы, працую вядучым. Сёлета ў ліпені першы раз паспрабаваў сябе ў здымках фільма «Чарнобыль» у Турэц-Баярах. На гэты сезон заключылі дагавор з летнікам «Арляня» на Смаргоншчыне. Ладзім там дзіцячыя дыскатэкі.

Зімой хлопец працуе жывым талісманам – зубрам у хакейным клубе «Дынама».

Дзяўчат на працу ў цір не бяруць – небяспечна. Часам у стане алкагольнага ап'янення прыходзяць страляць, а тут зброя, дзеліцца Арцём.

### Зарабляюць летам і студэнты

**Аляксандра Драгун** вучыцца на праграміста ў БДУІР, перайшла на другі курс дзённага аддзялення. Летам працуе ў кіёску, прадае марожанае, квас.

Сёлета дзяўчына другі раз паспрабавала сябе на сезоннай працы, уладкавалася па знаёмстве. Летась таксама працавала тут. Графік работы Аляксандры – 2/2, ад 11:00 да 21:30.

Працоўнае месца дзяўчыны абсталяванае камерамі відэаназірання – кіраўніцтва сочыць за бяспекай.

– З-за махлярства, якое можа здарыцца. Людзі могуць патрымаць грошы ў руках і забраць іх разам з рэштай. Але ў мяне такога не было, – растлумачыла Аляксандра.

### Прыходзіць на працу на паўтары гадзіны раней

На адным з надзіманых атракцыёнаў у парку працуе **Ілля Пятроўскі.**

– Графік у мяне прыкладна ад 10:30 і да васьмі-дзевяці гадзін вечара. – расказвае Ілля. – Але прыходжу на працу на паўтары гадзіны раней. Атракцыён трэба выставіць – нанач мы яго прыбіраем, каб не скралі, не парэзалі. Вядома, раблю гэта не адзін, бо ён важыць недзе 600-700 кілаграмаў.

На сезоннай рабоце Ілля працуе першы раз. Цяпер іншай не мае, але пасля летніх месяцаў плануе знайсці.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Якую сезонную працу прапаноўваюць у аддзеле занятасці Вілейскага райвыканкама

ВІЛЕЙКА

**Нам расказалі, на якую працу можна ўладкавацца летам.**

– Да нас штогод звяртаецца Вілейскі камбікормавы завод, набіраюць людзей на перыяд жніва. Цяпер у нас гарачая пара. Яны прапаноўваюць вакансію, мы яе размяшчаем. Шукаюць падсобных рабочых. Людзі пагаджаюцца, бо можна добра падзарабіць.

Таксама ДРБУ-13, што займаецца будаўніцтвам дарог, звярнулася да нас наконт іх добраўпарадкавання – фарбавання, засявання ўзбочыны травой, разраўноўвання граблямі пяску, – распавяла **Ірына Чабатар,** галоўны спецыяліст аддзела занятасці ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Вілейскага райвыканкама. – Але большасць жадае трапіць на бульбу, там ёсць магчымасць узяць гародніну замест грошай.

**Таццяна Цітуленка,** начальнік аддзела занятасці ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Вілейскага райвыканкама, адзначыла, што ажыятаж сезонных прац назіраецца восенню, калі пачынаецца капанне бульбы.

**Таццяна КАСЬЯН.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.08 | 9.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0002 | **2.0110** |
| Еўра | 2.3264 | **2.3327** |
| Злоты, 10 | 5.4279 | **5.7418** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1701 | **3.1549** |
| Грыўня, 100 | 7.4027 | **7.4592** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 2.08 | 8.08 |
| Еўра | 2.3100/2.3300 | **2.3100/2.3300** |
| Долар ЗША | 1.9850/2.0030 | **2.0000/2.0170** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 1.08 | 8.08 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,60 | **3,60** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,95 | **6,95** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 3,40 | **3,15** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,50 | **13,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 0,90 | **0,90** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,60 | **1,25** |
| Алей «Залатая семачка», 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **3,25** |
| Маянэз, 400 г | 1,90 | **1,90** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,25** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,20 | **1,30** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 1,20 | **0,80** |
| Кабачок, 1 кг | 0,50 | **0,35** |
| Капуста, 1 кг | 0,65 | **0,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,00 | **–** |
| Морква, 1 кг | 1,20 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Перац, 1 кг | 1,90 | **1,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,60 | **–** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,80 | **2,60** |
| Бананы, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **3,60** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **2,80** |
| Дыня, 1 кг | 2,50 | **2,00** |
| Кавун, 1 кг | 0,85 | **0,85** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **3,50** |
| Лімоны, 1 кг | 4,70 | **4,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,80 | **4,90** |
| Персікі, 1 кг | 3,00 | **2,80** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,00 | **1,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | 2,50 |

## На Мядзельшчыне патануў малады настаўнік беларускай мовы

Трагедыя адбылася ноччу з 3 на 4 жніўня на возеры Наўры на Мядзельшчыне, распавялі ў Мядзельскай выратавальнай станцыі.

Вядома, што 27-гадовы малады чалавек адпачываў на беразе возера ў кампаніі.

Пра тое, што ён патануў, выратавальнікам паведамілі бліжэй да раніцы 4 жніўня.

Відавочцы самі дасталі цела з вады. Міліцыя праводзіць праверку здарэння.

Вядома, што малады чалавек працаваў настаўнікам беларускай мовы на Мядзельшчыне.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Збег са школы-інтэрната: міліцыя шукае падлетка



16-гадовы вучань Радашковіцкай школы-інтэрната **Ігар Бандаровіч** 1 жніўня сышоў з інтэрната і не вярнуўся.

– Падлетак – ураджэнец вёскі Татаршчына Стаўбцоўскага раёна. Вядома, што са школы-інтэрната ён сышоў у белай майцы, цёмных шортах і карычневых пантофлях на босыя ногі.

**Прыкметы падлетка:**

Рост каля 170-175 см, хударлявы, з бледным тварам і карымі вачыма, валасы кароткія светла-русыя, вушы злёгку адцягнутыя.

Асаблівая прыкмета – падлетак кульгае на правую нагу.

Калі вам што-небудзь вядома пра месцазнаходжанне Ігара Бандаровіча ці вы яго бачылі, міліцыя пераканаўча просіць паведаміць пра гэта па тэлефонах у Маладзечне: (8-0176) **74-96-83,** (8-0176) **77-16-56,** па мабільным тэлефоне (8-029) **546-40-44** альбо па тэлефоне **102** у бліжэйшы аддзел міліцыі.

## Сышоў з дома тры тыдні таму і знік: міліцыя шукае жыхара Маладзечаншчыны



Маладзечанскі РАУС шукае зніклага без звестак **Дзмітрыя Анатольевіча Рубана,** які сышоў з дома 17 ліпеня.

Мужчына зарэгістраваны па адрасе: Маладзечанскі раён, вёска Запалякі, вуліца Цэнтральная.

**Прыкметы:** рост каля 190 сантыметраў, худы; прамавугольны бледны твар, сярэдні лоб, дугападобныя бровы, карыя вочы, сярэдні прамы нос, сярэднія адтапыраныя вушы, кароткія сівыя хвалістыя валасы, зачэсаныя на левы бок.

**Асобыя прыкметы:** няма верхняга пярэдняга правага зуба і ніжняга пярэдняга левага зуба. На левай кісці татуіроўка з чатырох кропак.

**Быў апрануты** ў светла-карычневыя джынсы, белую кашулю з кароткімі рукавамі на гузіках, скураныя светла-карычневыя басаножкі, цёмна-карычневыя трусы-шорты, шэрыя шкарпэткі.

З сабой меў срэбны ланцужок з крыжыкам і 270 рублёў, а таксама пакет з цёмнымі спартыўнымі штанамі, сінімі сланцамі, карычневай майкай, светлай курткай, станком для галення, зубной шчоткай.

Пераканаўча просім грамадзян, якія нешта ведаюць пра месца знаходжання Дзмітрыя Рубана, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах **8 (0176) 749683, 8 (0176)771656, 8 (029) 5464044** або **«102».**

**Валянцін АСІПОВІЧ, начальнік Маладзечанскага РАУС.**



# Фотафакт. 5 жніўня над Вілейкай пранеслася бура

Больш фота — **на rh.by!** Адсканујце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **tinyurl.com/y7fqmvy5**





Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Вывернутае дрэва на вуліцы Чапаева.**

# П'яны віляйчанін прыставіў нож да горла таксіста – кіроўца вёз яго дзяўчыну

ВІЛЕЙКА

**У Вілейцы 28-гадовы мужчына не адпускаў сваю дзяўчыну і пагражаў нажом таксісту, які збіраўся павезці яе з іншым кавалерам. Пракуратура 6 жніўня накіравала справу ў суд.**

Пракурор Вілейскага раёна **Вадзім Шукрынаў:**

– Інцыдэнт адбыўся ў Вілейцы 29 мая каля паловы другой гадзіны ночы. Мужчына адпачываў з дзяўчынай у інтэрнаце, у якім жыве. Калі яна выклікала таксі, села ў машыну і збіралася з'ехаць з іншым маладым чалавекам, п'яны кавалер дастаў кухонны нож, прыставіў яго да горла таксіста і загадаў не рухацца з месца, пакуль дзяўчына не выйдзе з машыны.

Па словах Вадзіма Шукрынава, абвінавачаны выцягнуў дзяўчыну з аўтамабіля, другі кавалер пацярпелай уцёк тэлефанаваць у міліцыю, а спалоханы таксіст з'ехаў з месца здарэння.

Падазраваны ў здзяйсненні злачынства быў некалькі разоў асуджаны. Да крымінальнай адказнасці прыцягваўся за прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання, рабаванне, махлярства, крадзяжы і прысваенне даручанай яму маёмасці.

Мужчына змешчаны пад варту да суда.

Справу расследавалі па трэцяй частцы артыкула «Хуліганства, здзейсненае з прымяненнем зброі ці іншых прадметаў, якія выкарыстоўваюцца ў якасці зброі для прычынення цялесных пашкоджанняў (асабліва злоснае хуліганства)».

Злачынства караецца абмежаваннем волі на тэрмін ад трох да пяці гадоў або пазбаўленнем волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў.

– Пры пэўных абставінах нават ножку ад табурэткі або простую палку следства можа прызнаць прадметам, якое выкарыстоўваецца ў якасці зброі, – тлумачыць Вадзім Шукрынаў. – Кухонны нож таксама не з'яўляецца халоднай зброяй, але калі таксіст адчуў яго лязо ў свайго горла, ён выпрабаваў сур'ёзныя маральныя пакуты. Таму і пакаранне за ўчыненне асабліва злоснага хуліганства прадугледжанае даволі сур'ёзнае.

Пракурор адзначае, што сёлета ў Вілейскім раёне назіраецца рост злачынстваў, якія праваахоўныя органы кваліфікуюць як хуліганства. Гэта пры тым, што і год таму колькасць такіх злачынстваў узрасла.

Вельмі шмат у раёне здзяйсняецца хуліганскіх дзеянняў, звязаных з пашкоджаннем маёмасці. У асноўным – з пашкоджаннем аўтамабіляў, якія гаспадары паркуюць на неахоўных стаянках альбо ў неўстаноўленых месцах.

П'янства – пастаянны спадарожнік хуліганскіх правяў. Вадзім Шукрынаў падкрэсліў, што абсалютна ўсе хуліганствы, зафіксаваныя з пачатку года на Вілейшчыне, зламыснікі здзяйснялі ў стане алкагольнага ап'янення.

**Паводле MLYN.by.**

# Падвялі вынікі акцыі «Вечар у вёсцы»

Фотаздымак Надзеі Бароўкі, які перамог у нашай акцыі «Вечар у вёсцы».



Усе сталі рыхтавацца да ўдзелу у маёвай ночы танцаў у Засценку Скрыплева Валожынскага раёна. Апрануліся ў народныя касцюмы, падкрэсліваючы гэтым сувязь пакаленняў. Так падсписала свой фотаздымак Алена Міхальцова.



Ясьманаўцы, 2016 год. Здымак зроблены ў цэнтры вёскі, дзе нават захаваліся старыя дзвюхкаляёвыя праезды без сучаснага пакрыцця. Неабыякавыя жыхары сочаць за парадкам і перад хатай, і на ўласным падворку. Фота Аляксандра Дзехцяронка.

**Чарговую акцыю «Рэгіянальнай газеты» мы зладзілі спецыяльна для тых, каго захапляе жыццё за межамі горада і вясковыя краявіды.**

Мы прапаноўвалі нашым чытачам сфатаграфаваць вясковы вечар і з невялікім подпісам скінуць нам на электронную пошту. Лепшым, як заўсёды, абяцалі падарункі.

У конкурсе паўдзельнічалі пяць фотаздымкаў, зробленых у розных куточках нашага рэгіёна. Прадставілі здымкі з Мядзельшчыны, Валожыншчыны, Вілейшчыны і Маладзечаншчыны.

Днямі рэдакцыя вызначыла пераможцу. Лепшы фотаздымак даслала **Надзея Бароўка.** Фотаздымак удзельніца зрабіла на Мядзельшчыне, у вёсцы Канстанцінава. Надзея напісала, што любіць прыроду, з задавальненнем назірае за птушкамі. Неяк яна залезла на дах, каб сфатаграфаваць прыгожы захад сонца. Якраз у гэты час на сасну побач з хатай сеў бусел. Атрымаўся нечаканы здымак.

Надзея будзе ўганараваная прызам «Рэгіянальнай газеты». Таксама рэдакцыя вырашыла адзначыць невялікімі падарункамі **Маргарыту Гайдаржы** за фотаздымак «Купалле ў Алёхнавічах», **Алену Міхальцову** за здымкі з Валожыншчыны і **Аляксандра Дзехцяронка** за фотаздымак з вёскі Ясьманаўцы, што на Вілейшчыне.

Мы чакаем пераможцу і ўдзельнікаў на наступным тыдні, каб уручыць падарункі.

**Аддзел інфармацыі.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ВІНШАВАНКА

**З ЮБІЛЕЕМ!**

**Аляксандру Барысавічу МАНЦЭВІЧУ з Вілейкі**

Паважаны Аляксандр Барысавіч! Віншуем Вас з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, матэрыяльнай незалежнасці, натхнення ў працы і па жыцці, кахання, адданых падпісчыкаў і чытачоў. Усе мы вельмі рады працаваць у вашай камандзе.

**З павагай, калектыў «Рэгіянальнай газеты».**

**Аляксандру Барысавічу МАНЦЭВІЧУ з Вілейкі**

Шаноўны Аляксандр Барысавіч! Віншую Вас з ЮБІЛЕЙНЫМ ДНЁМ НАРОДЗІНАЎ! Зычу Вам усяго самага найлепшага. Усяго таго, чаго самі сабе жадаеце,толькі ў пяць разоў больш! Сямейнага шчасця і ўзаемнага кахання, хатняга дабрабыту, поспехаў у творчай дзейнасці і вялізнага кола не прыхільнікаў. Заставацца заўжды такім, якім Вы ёсць, – душэўным, шчырым, сяброўскім, жыццярадасным, і каб на Вашым шляху заўжды былі спадарожнікамі толькі добрыя людзі. А самае галоўнае – моцнага Вам здароў'я і доўгіх год жыцця!

**З вялікай павагай, Ваш Алесь Раткевіч.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Матаблок «Магнум» М 107-Б2. У камплекце плуг, акучнік двайны, фрэзы, дадатковыя колы. Т. (8-029) 1459418.

• Опель-Астра G, 2003 г.в., універсал, 2,0 ТДІ, сіні, ТА, тэрмінова. Т. (8-029) 6046728.*

• Форд-Мандэа, 1994 г.в., седан, прабег 275 000 км. Цана дагаворная. Т. (8-033) 6356008.

• Стартар, генаратар да рухавіка-406, КПП, лабавое шкло. Т. (8-0290 5769547.

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра з мэбляй, гараж з праграбам. Т. (8-01771) 39873.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 7725105.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне з рамонтам, 63 000 руб. Т. (8-029) 5028832, (8-029) 1954208.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы (цэнтр горада). Т. (8-044) 7988018.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Чапаева, 62, 61,3 кв. м, 5 паверх, 70 000 руб. Т. (8-029) 5056728.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 2 паверх, вул. Вальнца, або абмяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Мінску, еўрарамонт. Плошча 72 кв. метра. Развітая інфраструктура. Т. (8-029) 6616200.

• 4-пакаёвая 2-узроўневая кватэра ў Вілейцы: 75,7/50,2/9. Т. (8-029) 3342562.

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі у в. Сінькі Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 1704380.*

• Дом недабудаваны ў в. Костыкі на беразе р. Вілія. Т. (8-029) 8720822, (8-029) 9074107.

• Дом новы 2-узроўневы, 6х6,5, ў в. Насілава, драўляны, абкладзены цэглай, 0,22 га, сад, калодзеж. Побач газаправод, вадаправод. Побач электрычка і гарадскі аўтобус. Т. Вэлком (8-029) 9430755.*

• Дом у аг. Ілья. Т. (8-029) 2793377*.

• Дом у в. Папоўцы Вілейскага р-на. Лазня, калодзеж. Т. (8-029) 8587518.*

• Зруб дома 6х12 метраў. Т.МТС (8-029) 7459993, МТС (8-029)5622825.*

• Садовы ўчастак, жылы домік. Нядорага. КААП «Брыльянт», каля вёскі, чыгуначны прыпынак «Ласі». Т. (8-033) 6407558.*

### КУПЛЮ

• Дом альбо дачу ў добрым стане, недалёка ад чыгункі. Т. (8-029) 1815904.*

### ЗДАМ

• 1-пакаёвую кватэру ў г.п. Чысць на доўгі тэрмін, з мэбляй. Балкон. Падвал. Т. (8-044) 7337811.*

## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Бусы 1,5 т. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Фура 20 т. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Ачыстка і рамонт калодзежаў. Капанне каналізацыі ўручную. ІП Лукша У.В. УНП 591813520. Т. (8-029) 2168221.*

• Будаўніцтва, рэканструкцыя, рамонт малапавярховых будынкаў, дамоў, катэджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ТАА «БілдСтайл» УНП 690668121. Т. (8-033) 6654173, (8-01771) 23349.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Вырабы з металу любой складанасці. Вароты, агароджы, лесвіцы, казыркі, поручні, коўка і інш. І.П. Стрыга Ю.С. УНП 692011543. Т. (8-029) 6868755.*

• Драбленне пнёў любога дыяметра. Хутка, якасна, нядорага. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зялянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• **УЦЯПЛЕННЕ**, аддзелка **ФАСАДА** дома, балконаў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956. Т. (8-029) 8771721.*

• Шротаструменная (дробеструйная) апрацоўка металу. ПУП «Дойлід-С», УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

## ПРАДАЕЦЦА

## РОЗНАЕ

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Дастаўка. Выгрузка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1989988, (8-033) 6989980.*

• Цэгла (кирпич) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Міні-трактар самаробны, гідраўліка, навясное абсталяванне, прычэп. Т. (8029) 6887462.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік «Атлант» 1-камерны, тэлевізар «Гарызонт», усё ў выдатным стане. Т. (8029) 8630144.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ
(8029) 762-78-98
(8029) 332-67-79
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• Абаненцкія карты «Трыкалор» – скідкі! Акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Антэны спадарожнікавыя «Трыкалор», НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП «Ліцераль». УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Крэсла-ложак новае. Т. (8-0176) 550907.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова дойная. Т. (8-029) 3529340, (8-029) 3226885, (8-029) 6570189.*

• Карова малочная галштынскай пароды (два ацёлы) у Маладзечне. Тэрмінова! Цана дагаворная. Т. (8-0176) 732605, (8-033) 6192475 Тэрэса Балеславаўна.*

• Козы дойныя і маладняк. Нядорага. Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.*

• Козы дойныя. Т. (8-0176) 506210, (8-029) 6558253.

**Іншае**

• **РЭЙКА МАНТАЖНАЯ**. Магазін завода ЗЕНІТ рэалізуе рэйку мантажную даўжынёй 2 і 3 м з дрэва хвойных парод тэхнічнай сушкі для абіўкі дамоў сайдынгам, блок-хаусам і імітацыяй бруса. Кошт 1 м.п. – 90 капеек. Пад заказ магчымы выраб рэек любога сячэння і дастаўка на аб'ект пакупніка. АТТ «Зеніт-БелОМО» УНП 600102155. Т. (8-01771) 32937, (8-01771) 32966.*

## КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Кнігу пра нямецкую аўчарку выдання да 90-х гадоў. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.

## ІНШАЕ

• **МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ІНВАЛІДАЎ ПРЫМЕ Ў ПАДАРУНАК НЕВЯЛІКІ ХАЛАДЗІЛЬНІК. Т. (8-029) 5753932.***.

## ПРАЦА

## ПАТРАБУЕЦЦА

• Будаўнічай арганізацыі патрабуюцца рабочыя будаўнічых прафесій: муляр, тынкоўшчык-маляр, цясляр. ТАА «БілдСтайл» УНП 690668121. Т. (8-033) 6654173, (8-01771) 23349.*

• ТАА «ДАМІР-Тэхна» патрабуецца на пастаянную работу кваліфікаваны электразваршчык. УНП 192562294. Т. (8-044) 5463031.*

• Фермеру ў в. Забрэззе Валожынскага раёна патрабуюцца дапаможнікі па гаспадарцы. Прадастаўляецца жыллё. Даведкі па тэлефоне (8-029) 6162240. Аляксандр.*

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Пячнік. Т. Лайф (8-025) 6035930.*

Предприятию ТРЕБУЮТСЯ
**ВОДИТЕЛИ КАТЕГОРИИ С.**
Работа – грузоперевозки по Беларуси.
Тел. (8-029) **343-95-72** Дарья
ИП Вашкевич Г.В. УНП 692012259

**«Рэгіянальная газета»** шукае
**рэкламнага агента**
Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас **reklama@rh.by.**

**АНТЕННЫ**
**спутниковые, БТ, Триколор, НТВ+**
Установка • Ремонт • Оплата
(8-029) **636-65-59** Вел
(8-029) **872-90-59** МТС
ИП Давгучиц А.Ю. УНП 192600268

Организации на постоянную работу **в г. Молодечно** требуются
**СЛЕСАРЬ-ИНСТРУМЕНТАЛЬЩИК**
**ТОКАРЬ ДЛЯ РАБОТЫ НА ТОКАРНЫХ ПОЛУАВТОМАТАХ**
Тел. (8-029) **303-82-84**
ООО «Феррум Стандарт» УНП 692020962

Запрашаем на работу
**ПРЫБІРАЛЬШЧЫЦ І МЫЙШЧЫКАЎ ПОСУДУ (жанчын)**
**з бясплатным пражываннем у Мінску вахтавым метадам.**
З/п ад 380,00 рублёў.
Тэл. (8-044) **530-27-91,** (8-029) **393-47-49,** (8-017) **388-28-38.**
ПУП «Юмакс груп» УНП 192621270

Организации для работы **в г. Вилейка** требуется:
**1. Специалист по перемотке электродвигателей** (возможно по совместительству)
**2. Юрист с опытом работы** (возможно по совместительству)
**3. Бригада строителей универсалов** (плотники-бетонщики, каменщики; З/п от 1 000 руб. РБ)
**222410, г. Вилейка, ул. Октябрьская, д. 32**
Тел. (8-01771) **2-37-51,** (8-029) **779-13-19,** (8-044) **779-13-19.**
ООО «Сафит-электросервис» УНП 691172498

**ОАО «Шершуны-Агро» Минского района**
на постоянную работу требуются:
**• ПОМОЩНИК НАЧАЛЬНИКА МТФ**
**• ИНЖЕНЕР ПО ОХРАНЕ ТРУДА**
**• ЭКОНОМИСТ**
**• ТРАКТОРИСТЫ**
**• ЖИВОТНОВОДЫ**
**Требования: опыт работы. Жильё предоставляется.**
Тел. (8-029) **364-77-24,** (8-029) **854-80-10,** (8-017) **505-88-30**
УНП 690654548

**БУРЕНИЕ СКВАЖИН НА ВОДУ**
• Высокое качество
• Договор • Гарантия.
Тел. (8-029) 133-65-74, 844-65-74.
ИП Гуринович А.В. УНП 691501462

**Бурение скважин на воду**
сайт www.burlexx.by
Тел. 8 029 128 78 78
ИП Янцевич А.Г. УНП 590945450

**МЕТАЛЛОЧЕРЕПИЦА** (РБ, РФ, Польша)
• Модульная металлочерепица, водостоки
• Профнастил, штакетник металлический
• Элитные окна ПВХ, мансардные окна
• Гаражные ворота и роллеты
• Метробонд, гибкая черепица
Рассрочка 0%
УНП 191301059
ООО "ВТ-Сити" www.vira.by (8-029)65-777-15 (8-017)348-13-78

**ОКНА, ДВЕРИ, БАЛКОНЫ, ЛОДЖИИ из ПВХ**
• Москитные сетки
• Откосы
• Регулировка
• Замена стеклопакетов
РАССРОЧКА КРЕДИТ
**РОЛЬШТОРЫ, ЖАЛЮЗИ**
• Металлические
• Закрытого типа
• Свободносвисающие
• День-ночь
(8-029) **874-80-80** МТС • (8-025) **512-92-66** Лайф
ИП Козел В.Е. УНП 691517355

**ОКНА ПВХ ДВЕРИ**
металлические межкомнатные
Скидки до 30%
Большой выбор
Кредит. Рассрочка
Хорошая цена за отличное качество
Велком (8-029) МТС (8-033) **690-3-222**
ИП Селицкий В.Т. УНП 691896176

**ООО «Пуховичимясопродукт»**
снимет в аренду
**ПОМЕЩЕНИЕ от 20 до 50 кв. м**
**в г. Сморгонь, г. Вилейка, г. Воложин, г.п. Радошковичи**
в проходимых местах.
Тел. (8-029) **691-91-55**
УНП 800017618

**МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ ДВЕРИ**
✓ Производство РБ
✓ Готовые и под заказ
✓ Улица, квартира
Рассрочка от 2 до 6 месяцев 0%
vasharamka.by
МТС (8-029) Вел **558-46-59** **647-53-20**
ИП Лясковский Д.О. УНП 691555400

**ПЛИТКА ТРОТУАРНАЯ БОРТ КОЛЬЦА КОЛОДЕЗНЫЕ**
(8-029) 258-01-08
(8-044) 744-21-24
ИП Кубицкий Н.В. УНП 690050394

• **ТРУБЫ**
• **уголки**
• **швеллеры**
• **арматура**
• **листы**
• **сетка рабица**
ИЗГОТОВЛЕНИЕ МЕТАЛЛОКОНСТРУКЦИЙ. РЕЗКА. Доставка
**Аренда автокрана**
г. Молодечно, ул. Рабочая, 8а
(0176) 50-56-53
58-04-76 (факс)
(029) 196-90-23 (-43) (-53)
www.metallkontrakt.by/
ООО «Молметаллконтракт» УНП 691398156

**ПАМЯТНИКИ**
(производство Карелия)
**РУЧНОЕ ОФОРМЛЕНИЕ:**
портреты по старым фото и медальонам
**Грамотный подход и консультирование**
**Гарантия качества**
Тел. (8-029) **378-20-59,** (8-029) **815-18-49**
**Г. Молодечно, ул. Чкалова, 13** (магазин № 20, район Геленово);
**ул. Б. Хмельницкого, 1.**
ИП Харитон Е.В. УНП 692013069

**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР**
«РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады.**
Аддзел рэкламы:
(8-0176) **53-78-04** (тэл./факс),
(8-029) **676-84-20, 573-28-47.**
E-mail: **reklama@rh.by.**

**РИТУАЛЬНЫЕ УСЛУГИ**
**ПРЕДОСТАВЛЕНИЕ КАТАФАЛКА** с похоронной бригадой
**ДОСТАВКА УСОПШЕГО** из морга, в морг, храм
**КОПКА МОГИЛ** любой сложности
**ПОМОЩЬ В СЛОЖНОЕ ДЛЯ ВАС ВРЕМЯ**
Тел. МТС (8-029) **739-69-89**
ИП Горелый Ф.В. УНП 591364730

**15.08.2018 года с 10.00 до 12.00**
начальник Молодечненского филиала
РУП «Минское областное агентство
по государственной регистрации и земельному кадастру»
**Владимир Васильевич Борисенко**
проводит «прямую линию»
по тел. (8-0176) **58-07-25.**
УНП 600199462

Требуются
**СОТРУДНИКИ НА ДЕРЕВО-ОБРАБАТЫВАЮЩЕЕ ПРОИЗВОДСТВО**
**(с возможностью обучения).**
Запись по телефонам:
(8-044) **552-62-09,**
(8-0176) **50-59-22**
ООО «ТехМолЛес» УНП 690661949

**СКЛАД ЗАО «БЕЛСНАБПОДШИПНИК» в г. МОЛОДЕЧНО ПРЕДЛАГАЕТ:**
**подшипники, ремни, манжеты, РВД, рукава кислородные, насосы НШ, аккумуляторы, фильтры, цепи, электроды.**
Наш адрес: **г. Молодечно, ул. Либаво-Роменская,158**
Тел.-факс (8-0176) **70-68-36,**
Velcom (8-044) **500-47-96,** (8-029) **656-58-29**
E-mail: **molodechno@belsnab.com**
ЗАО «Белснабподшипник» УНП 100371574

Требуется
**ВОДИТЕЛЬ-МЕЖДУНАРОДНИК**
категории С-Е.
**Тел.** (8-044) **756-89-67**
ИП Громыко С.В. УНП 691293914

**Требуются**
**ВОДИТЕЛИ КАТЕГОРИИ «Е»**
**на грузовой автомобиль для выполнения перевозок грузов.**
**Тел.:** (8-029) **665-43-98,** (8-029) **697-78-64**
ЧТУП «Занкевич В» УНП 690627832

**БЕТОН**
**РАСТВОР**
ОТ ПРОИЗВОДИТЕЛЯ
**ПЕСОК, ЩЕБЕНЬ, ГРАВИЙ, ПГС**
УСЛУГИ ПОГРУЗЧИКА
(погрузочные работы, планировка, котлованы)
8-044-749-00-56
8-029-749-00-65
ООО «Алисан-Групп», УНП 690551451

## Не рэкамендуюць збіраць ягады ў некаторых лясах Вілейшчыны і Валожыншчыны

ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН

Сёлета супрацоўнікі Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праверылі лясныя ягады і знайшлі ў некаторых радыёнукліды цэзію-137.

Спецыялісты не рэкамендуюць збіраць ягады ў лясах каля вёсак Талуць і Іжа Вілейскага раёна, а таксама Вуглы і Пяршаі на Валожыншчыне.

У чарніцах, нядаўна сабраных у Валожынскім раёне, зафіксавалі значнае перавышэнне радыёнуклідаў цэзію-137. Дапушчальная норма ўтрымання перавышае норму ад 1,4 да двух разоў.

У Вілейскім раёне актыўнасць цэзію ў ягадах ад 1,2 да 1,8 вышэйшая за норму.

А вось чарніцы з Мядзельскага, Смаргонскага і Маладзечанскага раёнаў не перавышалі дапушчальнай нормы радыяцыі.

Каб быць упэўненымі, што ягады і грыбы не забруджаныя радыяцыяй, лепш праверыць іх у адпаведнай лабараторыі на рынках рэгіёна або ў занальным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі.

**Ірына КАЗАКЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст.**

## У Маладзечне змагаюцца з несанкцыянаваным гандлем

МАЛАДЗЕЧНА

Спецыялісты Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі стараюцца спыніць несанкцыянаваны гандаль у горадзе.

Такія гандляры прапануюць тавары ў людных месцах: на рынку, побач з буйнымі гандлёвымі цэнтрамі, на аўтобусных прыпынках.

Калі вы набываеце тавар «з зямлі», майце на ўвазе, што часцей за ўсё, яго прадаюць без дакументаў, што пацвярджаюць яго якасць і бяспеку. Таксама падчас такога гандлю не выконваюць тэмпературныя ўмовы захоўвання прадуктаў.

У выпадковых прадаўцоў няма даведкі медагляду пра іх уласны стан здароўя, а значыць пакупнікі не могуць быць упэўненыя ў тым, што прадавец не хварэе на паразітарную або інфекцыйную хваробу.

Вы рызыкуеце не толькі сваім здароўем, але і здароўем сваіх блізкіх. Бо такімі прадуктамі можна атруціцца, пацярпець ад вострых кішэчных, паразітарных і інфекцыйных хвароб.

Прыклады такіх захворванняў – гельмінтозы, дызентырыя, сальманэлёз, батулізм, вірусны гепатыт, туберкулёз.

Кожны з нас сам павінен думаць пра сваю бяспеку і бяспеку сваіх родных. Каб папярэдзіць захворванні, атручванні, настойліва рэкамендуем не набываць харчовыя прадукты ў неўстаноўленых месцах.

**Кацярына ПТАШНІК,**
**доктар-гігіеніст**
**аддзялення гігіены**
**харчавання аддзела гігіены.**

## Знайшлі парушэнні ў арганізацыі харчавання хворых у Вілейскай ЦРБ

ВІЛЕЙКА

Супрацоўнікі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю праверылі, як выкарыстоўваюць бюджэтныя сродкі для арганізацыі харчавання хворых у Вілейскай раённай бальніцы.

Знайшлі пэўныя парушэнні. А менавіта няправільна закупляліся прадукты за кошт сродкаў бюджэта. Без неабходных працэдур дзяржаўных закупак бальніца заключыла дагаворы і набыла тушкі куранят-бройлераў, малочныя прадукты.

Таксама спецыялісты камітэта дзяржкантролю адзначылі, што часам сродкі з бюджэту выкарыстоўваюць неэфектыўна. Заўважылі і іншыя парушэнні.

Па матэрыялах праверкі 13 чалавек прыцягнулі да адказнасці.

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю.**

## Правядуць спартыўна-масавыя мерапрыемствы, прысвечаныя 550-годдзю Астраўца

АСТРАВЕЦ

Спартыўнае свята адбудзецца 25 жніўня на пляжы каля вадаёма ў другім мікраёне Астраўца.

**Праграма:**

10:00 – спартыўнае свята «Плаванне на чым папала»

11:00 – кубак Астравецкага раёна па пляжным валейболе

13:00 – спаборніцтвы па сілавым экстрыме «Астравецкі асілак-2018»

**Аддзел інфармацыі.**

# У Валожыне адчыняць інклюзіўную дзіцячую пляцоўку

ВАЛОЖЫН

**У суботу, 11 жніўня, ў Валожыне адчыняць інклюзіўную дзіцячую пляцоўку. На ёй змогуць гуляць і звычайныя дзеці, і дзеці з асаблівасцямі.**



Так пляцоўка выглядала без гумовай пліткі.

Па словах Галіны Рай, дырэктара Валожынскага цэнтра тэрытарыяльнага абслугоўвання насельніцтва, такіх пляцовак зусім не шмат у рэгіёне.

Яшчэ напачатку валожынцы з бліжэйшых дамоў па вуліцы Горкага дабраўпарадкавалі месца для ўстаноўкі пляцоўкі, прыбралі там смецце.

Ужо ўсталявалі ўсе прыстасаванні для дзіцячых гульняў, прывезеныя з Наваполацка. Апошнім этапам стала ўкладка пліткі. Яна будзе гумовай. Такую плітку кладуць для бяспекі дзіцяці: на ёй меншая верагоднасць атрымаць траўму.

Яркія арэлі, пясочніца і паравозік ужо стаяць на сваіх месцах. На дабрачынных умовах у стварэнні пляцоўкі ўдзельнічалі некаторыя прадпрыемствы Валожыншчыны.

На ўрачыстым адкрыцці, якое пачнецца ў дзесяць гадзін, валожынцам абяцаюць цікавыя конкурсы майстар-класы, аквагрым, фотазоны, гульні.

Падчас мерапрыемства разыграюць экскурсію на дваіх на Аўгустоўскі канал сярод тых, хто прынясе ласункі на святочны стол. Урачыстасці разгорнуцца па адрасе **Партызанская, 19** каля фізкультурна-аздараўленчага комплекса. Уваход вольны.

Нагадаем, што праект «Інклюзіўная пляцоўка Baby's Smile» стартаваў 31 сакавіка. Яго зладзілі сумесна з Фондам развіцця мясцовых супольнасцяў і пры фінансавай падтрымцы Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці. Мясцовыя ўлады падтрымалі праект.

Тады валожынскія актывісты задумаліся над тым, што звычайныя гульнявыя комплексы, што ўстанаўліваюць у дварах жылых дамоў, не падыходзяць для дзяцей з інваліднасцю. Прыступкі, вышыня зон для дзіцячых гульняў, адсутнасць мяккага траўманебяспечнага пакрыцця часта перашкаджаюць паўнавартаснай гульні.

Супрацоўнікі Тэрытарыяльнага цэнтра абслугоўвання насельніцтва лічаць, што новая пляцоўка дапаможа пераадолець бар'ер у зносінах паміж дзецьмі і палепшыць адаптацыю дзяцей з інваліднасцю ў грамадстве.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Як Гадзіла з вядомага фільма жахаў звязаны з Ашмянамі

АШМЯНЫ

**Сярод славутых землякоў Ашмянаў на некаторых рэсурсах у інтэрнэце вылучаецца імя героя руска-японскай вайны 1905 года Алеся Рыгоравіча Гадзілы, прапаршчыка Чымкенцкага ракетнага дывізіёна.**

Магчыма, хтосьці з карыстальнікаў сеціва і прыняў у спешцы яго за рэальнага чалавека. На самай жа справе гэта персанаж кароткага «першакрасавіцкага» апавядання – жарт краснаярскіх пісьменнікаў-фантастаў **Андрэя Лазарчука** і **Міхаіла Успенскага**.

Як і ўяўляюць героя казкі, сын ашмянскага вадавоза Рыгора меў волатаўскую постаць і неймаверную фізічную сілу. На першым годзе службы гігант, чый рост быў больш за два метры, праштрафіўся. Выцягваючы гармату, пагнуў ёй ствол. Пасля гэтага выпадку Алеся перавялі ў ракетны дывізіён. У тыя часы дажываюць апошнія дні ракетныя часці, узброеныя старадаўнімі прымітыўнымі парахавымі ракетамі.

> **У апавяданні пішуць: «Яфрэйтар-ракетчык Алесь Гадзіла стаў адной з легенд руска-японскай вайны. Узваліў на плечы два накіроўваючых станка з васьмю ракетамі сістэмы Якаўлева на кожным. Адна ракета важыла каля пуду. Ён з'яўляўся перад самураямі ў самых нечаканых месцах.**

За ім, як хвост, цягнулася звязка запальных шнуроў, галаву абараняў медны вадалазны шлем, счарнелы ад сажы, а волатаўскі роў самога яфрэйтара перакрываў нават жудасны гук ракетнага залпу».

За подзвігі на полі бою нашага казачнага земляка ўзнагародзілі Георгіеўскімі крыжамі і далі чын прапаршчыка.

### Гадзілай палохалі дзяцей

У войску распаўсюджваліся «лубачныя карцінкі», мясцовая версія коміксаў. На іх адважны воін адлюстроўваўся ў выглядзе выходзячага з мора волата, у якога з роту і пальцаў вывяргаецца агонь. Маленькія жоўтыя чалавечкі, здалёк падобныя да пацукоў, у жаху разбягаліся ад яго. Такога ж зместу ўлёткі раскідвалі з паветраных шароў і над пазіцыямі японскай арміі.

> **Нядзіўна, фантазіравалі аўтары, што вярнуўшыся дадому, японскія салдаты сталі расказваць дзецям і ўнукам гісторыі пра звычкі і звычаі страшнай пачвары. І маці палохалі непаслухмяных дзяцей: «Вось выйдзе з мора Гадзіла, спаліць усіх агнём…».**




Фота забяспечана Аляксандрам СТАРАВЫБАРНЫМ.

Ракетчык каля гатовага да дзеяння адназараднага пускавога станка.

Так, па жартоўнай версіі, і нарадзілася легенда аб монстры Гадзіла. Пасля вобраз абыгралі ў кінематографе. Хаця спачатку з'явіліся шматлікія фільмы пра пачвару, і толькі праз шмат гадоў таленавітыя аўтары прыдумалі дасціпную гісторыю пра ўзнікненне легенды.

### Зрабіце з Гадзілы брэнд

Няцяжка здагадацца, што прозвішча Гадзіла сапраўды падобна да беларускага з прынятым у нашай мове «дзеканнем». Таму пісьменнік і «пасяліў» героя ў Беларусь. А вось чаму выбар упаў менавіта на Ашмяны – гэта сляпы лёс, або аўтараў нешта звязвае з гэтым райцэнтрам, – невядома.

На жаль, існуе не так шмат літаратурных твораў, у якіх згадваюцца Ашмяны або іх ўраджэнцы. Тым больш радуе, што краснаярскія фантасты падарылі нам такі каларытны і запамінальны літаратурны персанаж, які мог бы стаць адным з галоўных брэндаў горада.

> **Так, сам па сабе невялікі аповед ніяк не можа прэтэндаваць на прыкметнае месца ў літаратуры, а вось кіношны монстр, аб'ект жарту таленавітых пісьменнікаў, мае сусветную вядомасць.**



Фота wallpaperstag.com

Гадзіла з вядомага фільма жахаў.

### На легендзе можна добра зарабіць

У сусветнай практыцы даўно існуе звычай «раскручваць» вобразы літаратурных персанажаў для павышэння пазнавальнасці і прыцягальнасці гарадоў для турыстаў. Дзейнічае на лонданскай Бэйкер-стрыт музей-кватэра Шэрлака Холмса, няма адбою ад наведвальнікаў у самай папулярнай карчме Прагі – швейкаўскай «У чашы», не змяншаецца патокі турыстаў да адной з галоўных славутасцяў Капенгагена – скульптуры Русалачкі з казкі Андэрсана.

Не ўсім знайшліся прыдатныя літаратурныя персанажы, і ў Шклове зрабілі помнік агурку, у Бабруйску–бабру, а ў Полацку ўзведзены памятны знак беларускай літары «Ў» (У нескладовае). Думаецца, што і ў Ашмянах, не распешчаных яркімі і запамінальнымі вобразамі, нельга ўпусціць магчымасці нагадаць пра сябе.

### Легендзе 100 год

Гэты арыгінальны аповед быў напісаны ў 1998 годзе. Сёлета Алесю Гадзіле як літаратурнаму персанажу споўніцца 20 год. Яшчэ ёсць час, каб падрыхтавацца і годна сустрэць гэтую круглую дату.

**Аляксандр СТАРАВЫБАРНЫ, Ашмяны.**




Эдуард Мацюшонак.

## У Мінску адкрылі выставу Эдуарда Мацюшонка

**ВІЛЕЙКА**

Ад сёмага да 30 жніўня выставу жывапісу вілейскага мастака можна пабачыць у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь па адрасе: Мінск, вуліца Карла Маркса, 12.

На выставе «Радзіма. Рэканструкцыя» мастак прадстаўляе 32 працы. Сярод іх як творы, напісаныя нядаўна, так і раннія карціны аўтара. Тыя працы, якімі я займаюся ўсё сваё творчае жыццё, кажа мастак.

— Пачынаю з першаснага — свайго «Ноевага каўчэга», расповеду пра людзей, якіх я ведаю і паважаю. На карцінах будзе маё ўспрыманне малой радзімы, — распавёў «Рэгіянальнай газеце» **Эдуард Мацюшонак**. — Наведнікі пабачаць гербы знакамітых шляхецкіх радоў, будынкі, партрэты. Будуць творы, прысвечаныя прадстаўнікам Вілейшчыны — **Багдановічам, Козелам-Паклеўскім, Любанскім.**

«Радзіма. Рэканструкцыя» — чацвёртая выстава мастака ў сталіцы. У Нацыянальным гістарычным музеі — першая.

— Калі мне патэлефанаваў дырэктар музея **Павел Сапоцька** і прапанаваў выставіцца, я адразу пагадзіўся, — падзяліўся Эдуард Мацюшонак. — Гэта якраз тыя працы, прадстаўленне якіх будзе вельмі дарэчы менавіта ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Ілы правялі свята вёскі

**ВІЛЕЙКА**

2 жніўня ў Ілы правялі свята, прысвечанае вёсцы.

Як заўсёды былі атракцыёны, гандлёвыя пункты, можна было зрабіць сабе аквагрым. Мясцовыя артысты і калектывы з суседніх вёсак ладзілі канцэрт на плошчы. А закончылася свята дыскатэкай.

2 жніўня свята ў Ілы праводзяць штогод. Некаторыя даследчыкі лічаць, што Ілья атрымала назву ў гонар прарока Іллі або першага жыхара, якога так звалі.

**Юлія ЯРАШОНАК.**

Сярод прэтэндэнтаў як сольныя выканаўцы, так і калектывы ад 9 да 14 гадоў.

**Паводле osh.by.**

## У якіх касцёлах рэгёна можна паслухаць арган

**АСТРАВЕЦ
МЯДЗЕЛ**

Сайт «Планета Беларусь» апублікаваў спіс касцёлаў, дзе можна паслухаць арган. У пералік трапілі і два храмы рэгёна.

Цікавыя і каштоўныя арганы ёсць у Гервятах на Астравеччыне і ў Будславе на Мядзельшчыне.

Будслаўскі арган зрабілі ў канцы XVIII-пачатку XIX стагоддзяў. Яго стварылі ў стылі ракако, упрыгожылі драўлянай разьбой і пазалотай.

У Гервяцкім касцёле ладзяць службы на беларускай, польскай і літоўскай мовах. Усе іх суправаджае гучанне старадаўняга інструмента, зробленага спецыяльна для гервяцкага храма.

Старыя арганы да сённяшняга часу захаваліся ў многіх беларускіх мястэчках. На жаль, не ўсе яны ў добрым стане. Майстроў, якія б маглі іх адрамантаваць, і музыкаў, што ўмеюць іграць на іх, не так шмат.

**Паводле сайта «Планета Беларусь».**

## Арцём Скароль з Ашмянаў прадставіў новы кліп на песню для «Еўрабачання»

**АШМЯНЫ**

Фінальнае шоу адбудзецца 31 жніўня. Трыумфатар конкурсу прадставіць Беларусь на дзіцячым «Еўрабачанні-2018», якое ў лістападзе прымае Мінск.

У дзясятку лепшых увайшоў Арцём Скароль з Ашмянаў. Кампетэнтнае журы, у складзе якога музыкі, артысты, прадзюсары, ацанілі 62 кампазіцыі.

# На канцэрце ў Маладзечне сабралі грошы на лячэнне смаргонскага хлопчыка

**МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ**

**У мінулую нядзелю ў маладзечанскім амфітэатры зладзілі чарговы канцэрт выхаднога дня.**



Салістка «Мерыдыяна» Алёна Пархімовіч-Бойка спявала калыханку.

Падобныя мерапрыемствы праводзяць тут штотыдзень, але гэты канцэрт тэатра песні «Мерыдыян» адрозніваўся ад іншых. Перад уваходамі ў амфітэатр сталі валанцёры са скрынямі. Кожны ахвотны мог па меры ўласных фінансавых магчымасцей дапамагчы пяцігадоваму жыхару Смаргоні **Яраславу Салаўю**.

З-за сваіх захворванняў Яраслаў не можа самастойна хадзіць і зусім не бачыць. Медыкі з нямецкага Мюнхена абяцаюць дапамагчы хлопчыку. Кажуць, можна вярнуць 60-80 працэнтаў зроку. Магчыма, спатрэбіцца аперацыя.

Каб сабраць неабходную суму на лячэнне і рэабілітацыю Яраслава, у Смаргоні ўжо праводзілі некалькі дабрачынных канцэртаў: прыязджалі зоркі беларускай эстрады. Прапанову з іншага горада **Іна Салавей** атрымала ўпершыню.

— Са мной звязаліся валанцёры з Маладзечна, — распавядае мама Яраслава. — Прапанавалі правесці канцэрт у падтрымку нашага сына. Я адразу пагадзілася. Думак пра тое, што за прапановай стаяць нейкія дрэнныя намеры, не ўзнікала.

На канцэрт са Смаргоні прыехала амаль уся сям'я Салавей. Толькі маленькі Яраслаў застаўся з бабуляй і дзядулем.

### А пачыналася ўсё з прыватнай ініцыятывы

Дабрачынны канцэрт у падтрымку хворых дзяцей ладзяць у Маладзечне трэці раз. Традыцыйна арганізатарамі выступае творчы тандэм з Маладзечна — спявак **Дзмітры Іваненка** з жонкай **Таццянай** і спявачка **Алеся Кульша.** Далучаюцца сябры — выканаўцы з Маладзечна і Мінска.

У 2015 годзе сабралі грошы на лячэнне анкалагічна хворай дзяўчынкі з Жабінкі, у 2017 дапамаглі хлопчыку **Кірылу** з Брэста: сабраная тысяча рублёў дапоўніла суму, якая ўжо была ў сям'і. Цяпер Кірыл з бацькамі збіраецца на лячэнне за мяжу.

Сёлета знайшлі дзіця бліжэй, з нашага рэгіёна.

А пачыналася добрая справа з прыватнай ініцыятывы.

— У 2015 годзе з мужам вырашылі правесці дабрачынны канцэрт для дзяўчынкі з Жабінкі, — распавядае маладзечанка **Таццяна Іваненка**, адна з пастаянных арганізатараў канцэрта. — Муж тады якраз удзельнічаў у адным з музычных праектаў на тэлебачанні. Сабраў сяброў з таго праекта, і людзі з усёй Беларусі прыехалі да нас. Усіх прытулілі ў сябе ў кватэры.




Сям'я Салавей прыехала на канцэрт без маленькага Яраслава.

### На дапамогу пагаджаюцца не ўсе

Да наступнага канцэрта ўжо далучылася Алеся Кульша. У арганізацыйных і побытавых пытаннях стала прасцей. Ды і абавязкі падзяліліся: Алеся Кульша стала адказваць за сцэнарый і артыстаў, Таццяна ўзяла на сябе збор грошай.

Дзяцей, якім патрэбная дапамога, арганізатары шукаюць праз групы ў сацыяльных сетках. Асабліва шмат такіх было, па словах Таццяны, у 2014-2015 гадах.

Сутыкнуліся з тым, што падобныя групы часта ствараюць людзі, якія не маюць непасрэдных адносін да хворага дзіцяці. І часам цяжка бывае выйсці на бацькоў, знайсці іх нумары тэлефонаў.

Па назіраннях Таццяны, прапанову правесці дабрачынны канцэрт блізкія хворага сустракаюць па-рознаму: хтосьці пагаджаецца адразу, хтосьці доўга маўчыць і не верыць у поспех мерапрыемства. Ёсць і такія, што ў дзейнасці арганізатараў бачаць нядобрыя намеры ўзбагаціцца.

### На канцэрт прыехалі некаторыя сталічныя спевакі

Людзі на такія канцэрты прыходзяць розныя і ахвяруюць па-рознаму. Хто не захапіў з сабой грошай, але хоча дапамагчы, можа ахвяраваць пасля на разліковы рахунак. Лістоўкі з рэквізітамі раздаюць валанцёры на ўваходзе. Летась сярод сабраных грошай была валюта: долары і грыўны.

У сёлетнім канцэрце «Тэрыторыя сэрца» ўдзельнічалі **Алеся Кульша, Алёна Пархімовіч-Бойка, Дзмітры Іваненка, Аліна Міхалёнак, Вераніка Ліпніцкая, Ульяна Лінок, Яна Даўбенка, Надзея Сліж, Яўген Бандзюк, Ульяна Бандаронак, Юры Баравец, Дзмітры Рудык.** Спецыяльна са сталіцы прыехаў цыганскі спявак **Рамір Баро.** Усе выступалі бясплатна.

У дабрачынныя скрыні маладзечанцы сабралі 430 рублёў. Быццам бы невялікая сума. І ўсе ж…

**Аксана ЯРАШОНАК.
Фота аўтара.**

# Не працуюць і не натхняюцца праграмай КПСС

## Што пісала маладзечанская «раёнка» пра дармаедаў 1960-х

МАЛАДЗЕЧНА

**Напачатку 1960-х маладзечанская раённая газета «Сцяг кастрычніка» друкавала шмат матэрыялаў, у якіх выкрывалі «дармаедаў». Прапаную некаторыя з іх.**


У дармаеды залічвалі тых, хто прадаваў яблыкі з уласнага сада.

Фота livejournal.com.

### Дармаедам і самагоншчыкам – ганьба!

У №65 1 чэрвеня 1961 года пад назвай «Строга захоўваць сацыялістычную законнасць» змясцілі справаздачу з сесіі райсавета дэпутатаў.

«...Выступаўшыя на сесіі старшыня калгаса імя Янкі Купалы **тав. Кашэўскі Ю.Ю.**, старшыня Ушаўскага сельсавета тав. **Мацкевіч С.І.**, загадчык райфа тав. **Шапіра Я.М.**, начальнік аддзела міліцыі тав. **Увараў П.С.** і іншыя з вялікім абурэннем гаварылі аб дармаедах і розных шабашніках, з якімі да апошняга часу ў раёне не вялася належная барацьба.

Выступаўшыя зыходзіліся на тым, што ў кожным населеным пункце раёна ў бліжэйшы час неабходна правесці сходы грамадзян, на якіх абмеркаваць Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 15 мая 1961 года «Аб узмацненні барацьбы з асобамі, якія ўхіляюцца ад грамадскай працы», а таксама Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР «Аб узмацненні адказнасці за самагонаварэнне». Дармаедам, самагоншчыкам і ўсім тым, хто вядзе антыграмадскі, паразітычны спосаб жыцця, павінна быць аб'яўлена рашучая і бязлітасная барацьба.

Справядліва гаварылі аб тым, што органам народнага суда і пракуратуры неабходна забяспечыць строгае захаванне патрабаванняў закона аб узмацненні барацьбы з асабліва небяспечнымі злачынцамі, не дапускаючы аслаблення мер судовага ўздзеяння да раскрадальнікаў сацыялістычнай уласнасці, хуліганаў і іншых злачынцаў.

Сесія прыняла разгорнутае рашэнне, у якім намечаны практычныя мерапрыемствы па ўмацаванню сацыялістычнай законнасці і грамадскага парадку ў раёне».

### З мэтай нажывы купіў быка-вытворніка

У N 81 за 8 ліпеня 1961 года чытачы маглі азнаёміцца з рэпартажам з залы суда. Судзілі дармаеда са стажам **Станіслава Сабалеўскага**, дрэнная слава пра якога хадзіла ў вёсцы Развадова і ва ўсім Мясоцкім сельсавеце.

«Яшчэ юнаком ён стаў на шлях паразітычнага спосабу жыцця. Але праз некаторы час дробныя кражы, хуліганствы яго ўжо не задавальнялі. У сваёй бруднай дзейнасці ён пайшоў далей – стаў бандытам.

Як гаворыць, да пары збан ваду носіць. Папаў і Станіслаў Сабалеўскі ў рукі. Ён быў асуджаны да 25 год пазбаўлення волі. Між тым горкі ўрок мінулага не пайшоў на карысць злачынцу. Вызваліўшыся па амністыі ў 1954 годзе з заключэння, Сабалеўскі доўгі час не займаўся грамадска-карыснай працай, як і раней працягваў весці паразітычны спосаб жыцця.

І вось Станіслаў Сабалеўскі зноў на лаве падсудных. На гэты раз за крадзеж жыта ў калгасе «Усход». Злодзею пашанцавала – яго асудзілі на невялікі тэрмін. А ў студзені 1961 года ён зноў вярнуўся дамоў.

Здавалася б, што гэты дармаед са стажам зменіць характар свайго жыцця, зразумее, нарэшце, што такім людзям не месца ў нашым савецкім грамадстве. Але гэтага не здарылася. Станіслаў Сабалеўскі рашыў працягваць «рабіць» грошы несумленным шляхам. З мэтай нажывы ён купіў... быка-вытворніка.

– Вось махляр! – здзіўляліся аднасяльчане.

Суд вынес прыгавор аб высяленні Сабалеўскага ў спецыяльна адведзеную мясцовасць тэрмінам на пяць год з абавязковым прыцягненнем да працы па месцы пасялення.

Прыгавор суда з задавальненнем сустрэт грамадаскасцю».

Матэрыял падпісаны выканаўцам абавязкаў мірайпракурора Пятухам.

### Зручней ноччу прыхапіць мяшок калгаснай бульбы

Нумар 132 ад 4 лістапада піша пра дармаедаў у Насілаўскім аддзяленні саўгаса «Маладзечанскі».

«Вялікі працоўны ўздым пануе зараз у Насілаўскім аддзяленні саўгаса «Маладзечанскі». Калектыў рабочых, натхнёны новай Праграмай КПСС, працуе з падвоенай энергіяй.

Аднак, як кажуць, у сям'і не без уроду. У нас ёсць яшчэ асобныя людзі, якія не прывыклі працаваць, не прыносяць карысці грамадству, жывуць за кошт добрасумленных рабочых.

**Узяць да прыкладу хутараніна Цатку. Сам гаспадар не працуе, ухіляецца ад грамадскай работы і яго жонка Ніна. Сям'я карыстаецца прысядзібным участкам у 1,29 гектара, большую частку яго займае сад. Цатка па спекулятыўных цэнах прадае яблыкі ў розных гарадах.**

Але гэта хапугу не задавальняе. Ён жывіцца саўгасным дабром.

Прывядзём адзін з апошніх фактаў. Вакол хутара была пасаджана саўгасная бульба. Вырасла яна наславу. Клубні адзін у адзін, буйныя. Але пачалі рабочыя ўбіраць ураджай і здзівіліся. Пад многімі кустамі пуста – падкапаны. Хто ж займаецца гэтым? Усе рашылі вывяць злодзея.

Сумесна з брыгадзірам Паўлам Кірыленкам на ахову бульбы ноччу выйшла некалькі чалавек. Пад раніцу на палетку з'явілася жанчына. Яна накапала добрага паўмяшка клубняў і хацела ўжо ісці дамоў. Але яе затрымалі на месцы злачынства. Ёй аказалася жонка Цаткі – Ніна. Бачыце, ісці на копку бульбы днём у саўгас і атрымаць за добрасумленную працу не хоча, дармаеду зручней ноччу прыхапіць мяшок-другі саўгаснай бульбы.

Дармаеды абкрадваюць добрасумленных людзей. Трэба рашуча з імі змагацца. На жаль, падобныя цаткі жывуць прывольна. Цатка і яго жонка жывуць у адным доме з цешчай, разам харчуюцца, апрацоўваюць участкі, але фармальна па гаспадарчай кнізе ў Цюрлёўскім сельсавеце лічацца асобнымі сем'ямі. У выніку гэтага маюць два прысядзібныя ўчасткі, трымаюць больш устаноўленай колькасці жывёлы. Настаў час навесці ў гэтай справе парадак.

**Чым менш будзе дармаедаў, тым хутчэй мы будзем рухацца ўперад, да камунізма».**

Працяг будзе.

**Падрыхтаваў Вадзім ПРАЎРАЦКІ, Мядзел.**

---

● КАЛЯНДАР

**10 ЖНІЎНЯ**

**140 гадоў** з дня нараджэння Еўсцігнея Міровіча (сапр. Дунаеў) (1878 – 1952), рэжысёра, драматурга, педагога, аднаго са стваральнікаў беларускага тэатра, народнага артыста Беларусі.

**1920.** У Мінску пачала дзейнічаць тэатральная група Уладзіслава Галубка (ад 1926 года – Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр, ад 1932 – трэці Беларускі дзяржаўны тэатр, дзейнічаў да 1937 года).

**11 ЖНІЎНЯ**

**1127.** Першае ўпамінанне пра Гародню ў пісьмовых крыніцах (Лаўрэнцеўскі летапіс).

**1948.** У Чэхаславакіі савецкія органы арыштавалі Янку і Ларысу Геніюшаў, якія пазней былі засуджаныя.

**13 ЖНІЎНЯ**

**1911.** Нарадзіўся Вінцэнт Склубоўскі (вёска Малышкаўшчына, цяпер Ашмянскі раён), грамадска-культурны дзеяч, актывіст Таварыства беларускай школы, пасля Другой сусветнай вайны працаваў на Беласточчыне.

**1956.** Памёр Якуб Колас, народны паэт Беларусі. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску.

**105 гадоў** з дня нараджэння Анатоля Багатырова (1913 – 2003), беларускага кампазітара, педагога, народнага артыста Беларусі.

**14 ЖНІЎНЯ**

**1385.** Падпісаная Крэўская унія, дамова аб саюзе Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага.

**1941.** Заключанае савецка-польскае пагадненне, на падставе якога створаная армія, дзе было шмат беларусаў (фарміравалася на тэрыторыі СССР у жніўні 1941 – сакавіку 1942-га, а потым была перакінута ў Іран, Ірак, ваявала ў Афрыцы і Італіі).

**1958.** Памёр Эдзюк (Эдвард) Будзька, паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч. Пахаваны на могілках святога Воцэха ў Чыкага (Ілінойс, ЗША).

**15 ЖНІЎНЯ**

**1068.** 950 гадоў таму адбылося паўстанне кіяўлянаў супраць князя Ізяслава, у выніку якога полацкі князь Усяслаў Чарадзей быў абраны кіеўскім князем.

**16 ЖНІЎНЯ**

**1903.** Нарадзіўся Мікола Абрамчык (вёска Сычавічы, цяпер Маладзечанскі раён), грамадска-палітычны дзеяч эміграцыі ў Чэхіі, Францыі і Германіі, публіцыст, інжынер, прэзідэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1947 – 1970). Скончыў Радашкавіцкую беларускую гімназію і Карлаў універсітэт. Памёр 25 мая 1970 года ў Парыжы.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Чаканні і рэальнасць. Як хлопец аўтаспынам вандраваў па Грузіі,



Першы дзень на моры. Батумі.

МАЛАДЗЕЧНА

**Усё часцей сустракаюцца людзі, якія імкнуцца да падобнага віду падарожжаў. Наколькі небяспечныя такія вандроўкі і чаму людзі абіраюць менавіта такім спосабам глядзець на свет?**

Жыхар Маладзечна **Сяргей Шабуня** вырашыў першы раз у жыцці паспрабаваць аўтаспын. Карэспандэнт «РГ» пагутарыў з ім на гэтую тэму і перад падарожжам, і цяпер, калі хлопец ужо вярнуўся.

### Чаканні. Спрабаваў аўтаспын у Беларусі

Перад паездкай **Сяргей Шабуня** вырашыў паспрабаваць аўтаспын у Беларусі. Ён выехаў з Маладзечна, узяў усе рэчы, што планаваў браць у падарожжа, толькі менш вады, ежы і грошай.

– Даехаў да Ліды і вярнуўся. Туды дабіраўся на чатырох аўто, дадому – на чатырох с паловай – пракаціўся трохі на матаблоку, – смяецца Сяргей. – Стаяў ужо каля Валожына, машын было мала. Бачу, марудна едзе матаблок па дарозе. Махнуў па прыколу, гляджу, а ён спыніўся метраў праз дзвесце. Я падумаў, што трэба раз пакатацца на гэтай штуцы, таму некаторы час ехаў на матаблоку. Дарэчы, ніякай агароджы ў яго няма, калі фура побач праязджае, не вельмі добрыя ўражанні.

**Сяргей заўважыў, што большасць машын не спынялася. Яго падвозілі пераважна мужчыны ці сем'і, жанчына была толькі адна.**

– Мяркую, бяруць пасажыраў ці тыя, хто сам спынам ездзіў, ці каму трэба ехаць шмат кіламетраў у адзіноце. Канешне, сустракаюцца і проста добрыя людзі.

Падвозіла мяне адна маладая сям'я. У іх быў цалкам запоўнены багажнік, на заднім сядзенні знаходзілася дзіця. Па дарозе я граў на ўкулеле – гэта невялікая гітара – і дзіця засынала. І сям'я была задаволеная, і я.

### Як рыхтаваўся да падарожжа

Паехаць Сяргей захацеў адразу пасля Новага года, глядзеў відэа пра падобныя падарожжы. Але грошай амаль не было. На турыстычную сумку, абутак, паходныя рэчы ён патраціў каля 300 долараў.

– Я вырашыў паехаць менавіта ў Грузію, таму што не патрэбная віза. Яшчэ там ёсць і горы, і мора.

Быў на той момант гатовы ехаць і за сотню, есці аўсянку і радавацца, што жыву ў свеце. Але з'явілася праца і я зразумеў, што магу ўзяць у дарогу больш.

Наконт ежы, спачатку хацеў есці толькі крупы – і танна, і ў намёце гатаваць можна на газавай гарэлцы. Але ведаю сябе, я дастаткова лянівы. Калі маю грошы, лепш не буду марнаваць час, зайду ў краму і куплю паесці. Планую ўзяць у дарогу крупы і сухафрукты, – дзеліцца Сяргей.

Вялікіх страхаў наконт чужых краін хлопец не мае, але прызнаецца, што здзяйсненне некаторых рэчаў не жадае.

– Па-першае, не хачу сустрэць «гопнікаў», апынуцца без рэчаў, грошай і дакументаў дзе-небудзь на дарозе не хочацца.

Па-другое, экзатычных жывёл накшталт павукоў ці змей. Яшчэ будзе непрыемна зламаць нагу недзе ў гарах.

На пытанне, што неабходна ўзяць у першы паход спынам Сяргей смяецца: «Галаву, наогул, аптымальны варыянт, калі ў цябе ёсць грошы і магчымасць, трэба ўзяць машыну і ехаць куды хочаш».



Вадаспады ў Баржомі.

### Калі не цяпер, то ніколі

– Жадаю, каб пасля паездкі мае погляды на жыццё змяніліся, не важна, у які бок. Хочацца змяніць каштоўнасці жыцця. Можа, зразумею, што праца наогул непатрэбная рэч і адпачынак – лепшы занятак. Ці наадварот, вырашу, што падарожнічаць не мае сэнсу, трэба ствараць сям'ю і будаваць дом. Але ўпэўнены: калі не цяпер, то потым можа не хапіць часу. Будуць дзеці, дом, крэдыты і адпачынак раз на год. Усяго пару тыдняў за год на мора…Жах.

Каб меў магчымасць, жыў бы кожны месяц у новай краіне. А праз пяць гадоў зразумеў, дзе мне лепш за ўсё, і застаўся там, – запэўнівае Сяргей.

Гэтая гутарка адбылася 28 мая.

**Сяргей вярнуўся з паездкі 6 жніўня. Мы даведаліся, ці спраўдзіліся чаканні хлопца.**

# з Маладзечна Турцыі, Расіі і Беларусі



Намётавы гарадок у Батумі.



На беразе Чорнага мора.



Сяргей з турысткамі з Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў.



Намёт на беразе Азоўскага мора.

## Рэальнасць. Ехаў уперад, да мора

З Маладзечна ён выехаў 11 ліпеня. За адзін дзень праехаў палову Беларусі і апынуўся ў Расіі.

Амаль нідзе не спыняўся спецыяльна – рушыў уперад, да мора. У Грузію. Адзіным расійскім горадам, дзе вырашыў застацца на дзень, стала Масква. Там жыве яго сяброўка.

– Дарэчы, мяне высадзілі ў Люберцах – ішоў 15 кіламетраў да Масквы пешшу, ноччу, міма гопнікаў, спартсменаў, рыбакоў. Зусім мяне не чапалі, нават, пашкадаваў, – смяецца Сяргей.

Не спраўдзіліся і хваляванні наконт экзотыкі – павукоў і змей хлопец амаль не бачыў.

## Парк, падобны да лесу

Большасць часу вандроўнік правёў у Грузіі – найбольш уразілі Тбілісі, Баржомі, Батумі, Мцхета і Вардзія.

– Тбілісі – сталіца Грузіі, таму там апрыёры прыгожа, шмат высокіх вулачак. Спадабалася статуя «Маці-Грузія» – адзін з сімвалаў горада. Яна знаходзіцца на вяршыні халма Салалакі. Туды можна дабрацца на пад'ёмніках ці па лесвіцах на вулачках, – распавядае Сяргей. – У Баржомі паспрабаваў знакамітую ваду. Ехаў з мясцовым жыхаром, той прапанаваў спыніцца ля крыніцы.

Наогул, горад невялікі, але ў ім ёсць незвычайны парк, больш на лес падобны. Гуляў там два дні, пабываў на вадаспадзе ў парку, што цячэ з вяршыні гары.

Калі спаў у парку ля ракі ў намёце, сустрэў турыстаў з Турцыі, якія падарожнічалі спынам. Дапамог паставіць ім палатку, напаіў гарачым чаем раніцай – у мяне была газавая гарэлка. А яны падзяліліся турэцкімі прысмакамі.

У Батумі запомніліся святломузычныя фантаны. Іх яшчэ называюць «танцуючыя» – велізарныя бруі вады круцяцца пад рытмы разнастайнай музыкі.

## Уразіў пячорны горад

– Найбольш за ўсё мне спадабалася Вардзія – гэта пячорны горад. Выглядае як вялікая скала. У ёй калісьці жылі людзі, яны выцІскалі норы і карысталіся такімі «кватэрамі». Там змяшчалася каля 50 тысяч чалавек. Я даведаўся пра гэта, калі хадзіў па тых сцежках, дзе вадзілі экскурсіі.

Пабываў у Мцхеце – гэта самая першая сталіца Грузіі. На мой погляд, нічым цяпер не цікавы гарадок, але побач з ім знаходзіцца гара, на якой стаіць старажытны храм. З яго – незвычайны від на сутокі дзвюх рэк – Арагві і Куры.

## У адзін дзень дзве краіны

Падарожнік ніколі не ведаў, дзе прачнецца ў наступны дзень – і гэта яму падабалася.

**– Ты прачнуўся – і насупраць мора, гара ці плот які, усякае бывала.**

Толькі аднойчы Сяргей правёў некалькі дзён на беразе мора ў Батумі. Каб не сядзець на месцы, вырашыў наведаць Турцыю. Да мяжы з ёю было ўсяго 20 кіламетраў.

Даехаў туды спынам, паказаў дакументы і апынуўся ў Турцыі. Пасядзеў некаторы час ля мора, адпачнуў і вярнуўся.

Надвор'е спрыяла добраму настрою. За ўвесь час паездкі дождж напаткаў Сяргея толькі два разы. Першы – ля нейкага адкрытага гаража, у якім вандроўнік яго і перачакаў. Другі – ноччу.

Дарэчы, спаў і ля засохлага возера, і ля рэк, і нават на беразе мора без палаткі.

## Частавалі мясцовыя жыхары

З ежы Сяргей браў у падарожжа пачак рысу і пачак аўсянкі, кілбасу, хлеб, казінакі, вафлі. Але частку прывёз дадому.

– Я хадзіў па прыгожых месцах, катаўся, смачна еў і піў. У кафэ там такія стравы, якіх у нас няма. З мясцовых спрабаваў хінкалі, хачапуры, чурчхелу.

Але кафэ наведваў рэдка, за свае грошы – многа частавалі мясцовыя жыхары. Добрыя людзі, самі прапаноўвалі ежу, хоць я прасіў толькі падвезці ці набраць вады.

Грузінаў з дзяцінства вучаць гасціннасці. Можаш – дапамажы. Іх паводзіны, выхаванне пра гэта сведчаць.

Неяк зайшоў за вадой да мясцовага жыхара, а ён мне прапанаваў пераначаваць, – расказаў Сяргей.

У падарожжы хлопец патраціў каля 200 рублёў.

## Хто ездзіць спынам

Сяргей расказаў, што па Грузіі ездзяць спынам шмат мясцовых жыхароў. Большасць з іх рускую мову ведае, але моладзь горш, чым старэйшае пакаленне.

Сяргей сустрэў і кітайца, які два месяцы правёў у дарозе.

– Ён разумеў толькі кітайскую мову, а кантактаваць неяк трэба. Мы малявалі «размовы» на пяску. Інакш патлумачыць, што трэба, да прыкладу, паставіць палатку, не маглі, – дзеліцца Сяргей.

Давялося падарожніку ўбачыць спыншчыка-земляка – той быў з Мінска.

## Шмат залежыць ад чалавека

– Заўважыў, недзе трэціна людзей з тых, хто мяне падвозіў, таксама ездзілі спынам. Але шмат залежыць ад чалавека.

Вось ёсць дзве машыны: з аднаго горада, нават з аднаго пад'езда. Але першы кіроўца ніколі не пагадзіцца падвезці, а другі хутка дапаможа.

Цяпер разумею – на дарозе адгадаць немагчыма, калі спыніцца чарговая машына. Можаш і пяць хвілін стаяць, і палову дня.

Калі Сяргей вярнуўся дадому, планаваў трохі адпачыць пасля падарожжа – ён праехаў каля 7000 кіламетраў. Хлопец прызнаўся, што трохі стаміўся ў дарозе. Цягнуць турыстычныя рэчы вагой каля 25 кілаграмаў, і праводзіць шмат часу ў машынах – цяжка. Але праца знайшлася адразу.

На сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы VK ён напісаў: «Гэта было вельмі займальнае падарожжа, з мноствам розных гісторый і сітуацый, якія кожны дзень мяняліся. Гэтак жа, як і ўсе людзі, якія дапамагалі мне ў паездцы. Вялікі ім дзякуй. Я атрымаў незвычайны жыццёвы вопыт, мора эмоцый і новыя погляды на многае, але мне ўсё ж прыйшлося вярнуцца дадому... Хочацца верыць, што гэтая паездка была далёка не апошняй».

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фотаздымкі прадастаўленыя Сяргеем ШАБУНЯМ.**

# «Ужо з-за цемры мяча не бачна, а мы ўсё гуляем...»

## Маладзечанка распавяла, як у 1950-1970-х моладзь бавіла час на гарадскім стадыёне

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У валейбол маладзечанка Соф'я Валоснікава гуляла больш за 50 год. Яна бачыла, як у Маладзечне адкрылі спартыўную школу, і ведае паіменна ці не ўсіх спартсменаў рэгіёна.**

Памятае тыя часы, калі лепшым месцам для збору моладзі быў гарадскі стадыён і як маладзечанцы куплялі білеты, каб падзівіцца на валейбольныя спаборніцтвы.

### Стадыён быў у свабодным доступе

**Соф'і Аляксандраўне ідзе 82 год. У спорце яна ад 1948. Ад гэтага часу хадзіла гуляць на гарадскі стадыён разам са старэйшым братам і сябрамі.**

– Тады дзе было збірацца моладзі? Толькі на стадыёне, – прыгадвае мая субяседніца 1950-я. – Тут было дагледжанае футбольнае поле, баскетбольная пляцоўка і дзве валейбольных – для мужчын і для жанчын. Таксама мелася добрая лёгкаатлетычная дарожка, пляцоўкі для гульні ў гарадкі і штурхання ядра.

У гады маладосці маёй субяседніцы стадыён быў у свабодным доступе. Ужо скончыўшы школу і раз'ехаўшыся вучыцца далей, падчас летніх канікулаў моладзь усё роўна збіралася на любімым стадыёне: трэніраваліся самі, назіралі, як гуляюць іншыя, проста гутарылі. А ў 1957 годзе шмат моладзі сабралася на стадыёне, каб паназіраць за вялікім сонечным зацьменнем.

Спартыўнай Соф'я Аляксандраўна была заўсёды. Можа таму, што недаядала ў дзяцінстве, кажа яна. А яшчэ таму, што хацела стаць лётчыцай. Сваякі, гледзячы на дзяўчынку, казалі, што ёй трэба было нарадзіцца хлопчыкам.

У 1953 годзе дзевяцікласніца вучаніца маладзечанскай школы №3 Соня Валоснікава ўдзельнічала ў спартакіядзе для школьнікаў тады яшчэ Маладзечанскай вобласці. Вызначылася ў скачках у вышыню. Скокнула метр сорак і заняла другое месца. Першай стала вучаніца школы №1 **Тася Патапава**. Першае месца ў той спартакіядзе мая субяседніца атрымала па бегу з бар'ерамі на дыстанцыю 80 метраў.

Пасля якім толькі спортам не займалася! Была чэмпіёнкай Маладзечанскай вобласці па кіданні дыска і штурханні ядра, каталася на лыжах, каньках, плавала, гуляла ў настольны тэніс. За свае спартыўныя дасягненні мае безліч узнагарод.

### І ўсё ж валейбол...

У 1955 годзе, прыгадвае Соф'я Аляксандраўна, у Маладзечне адкрылі спартыўную школу. Пад яе аддалі будынак былога настаўніцкага інстытута. Дырэктарам школы стаў **Павел Нецвятаеў**. Пачала развівацца лёгкая атлетыка.

Дзякуючы заняткам у Паўла Нецвятаева ў дзяўчыны з'явіліся поспехі ў індывідуальных відах спорту. Мама Соні, таксама Соф'я, пераконвала дачку, што лепш займацца кіданнем дыска. Там кожны сам за сябе.

Але любімы валейбол быў па-за канкурэнцыяй:

– Ну, што гэты дыск: кінуў, а пасля бяжы за ім, а пасля зноў кідай, – дзеліцца Саф'я Аляксандраўна. – Іншая справа – валейбол. Тут і відовішчнасць, і прыгажосць, і заўзятары з крыкамі «Со-ня! Со-ня!» На нашы спаборніцтвы нават уваход платны быў, білеты прадавалі. У 1958, 1960, 1972 і 1977 гадах Соф'я Валоснікава была капітанам жаночай зборнай медыкаў Беларусі па валейболе.

### Нам бы гэту дзяўчынку

Шмат спартыўных спаборніцтваў ладзілі ў рэгіёне. Па словах Соф'і Аляксандраўны, кожны працоўны калектыў, школа і сярэдняя навучальная ўстанова павінны былі выстаўляць на спаборніцтвы ўласную каманду, а то і дзве – мужчынскую і жаночую.



1960 год. На стадыёне трактарнага завода ў Мінску валейбольная каманда з Маладзечна гуляе з камандай Барысава. З мячом – Соф'я Валоснікава.

Фота з архіва Соф'і ВАЛОСНІКАВАЙ.

Не дзіўна, што добрых спартсменаў былі рады прыняць і на шматлікія прадпрыемствы, і ў навучальныя ўстановы. Пабачыўшы гульню валейбалісткі Валоснікавай, яе клікалі і ў педагагічны інстытут, і ў наргас. «Нам бы гэту дзяўчынку» – чула яна ад розных трэнераў. Але дзяўчынка скончыла курсы рэнтген-лабарантаў і сорак год адпрацавала ў дзіцячай бальніцы.

Шмат гадоў гуляла ў валейбольнай камандзе маладзечанскіх медыкаў. Каманду ведалі ва ўсёй Беларусі. Каля дзесяці год маладзечанскія валейбалісткі-медыкі ўтрымлівалі першынство на рэспубліцы, перамагаючы сталічных спартсменак. Паспяхова выступалі ў Вільні, Нальчыку, Краснадары.

### Не сталі мірыцца з несправядлівасцю

Калі ў чарговы раз каманда перамагла на рэспубліцы, сталі чакаць запрашэння на ўсесаюзныя спаборніцтвы. Але дзесьці «наверсе» вырашылі, што замест каманды медыкаў з Маладзечна выступаць за Беларусь паедуць мінчане. Маўляў, на ўсесаюзных гуляюць адны майстры спорту, і маладзечанская каманда будзе вельмі несалідна побач з імі выглядаць.

**Дзяўчаты-маладзечанкі, узрушаныя такой несправядлівасцю, напісалі абуральныя лісты ў высокія спартыўныя інстанцыі і ў газету «Савецкі спорт». У выніку выступаць за Беларусь паехала каманда з Маладзечна.**

### Камяні замест трэнажораў

Час на спорт у Соф'і Аляксандраўны знаходзіўся заўсёды. Пасля працы, паліўшы агарод, на які трэба было сорак вёдзер вады, Соф'я Валоснікава са сваімі сябрамі-аднагодкамі бегла або на гарадскі стадыён, або ў былы Дом прафсаюзаў (цяпер маладзечнаская школа мастацтваў) гуляць у настольны тэніс. Калі з'явіўся сын, брала яго з сабой на трэніроўкі.

Апошнія свае гульні Соф'я Аляксандраўна гуляла ў пачатку 1990-х. Па-ранейшаму прыходзілі адданыя заўзятары, якія падтрымлівалі любімую каманду праз дзесяцігоддзі.

Пытаюся ў маёй субяседніцы, як у яе атрымлівалася так доўга трымаць сябе ў добрай спартыўнай форме. Магчыма, правільнае харчаванне ды трэнажоры?

– Ды што вы?! – смяецца Соф'я Аляксандраўна. – Харчаванню былі рады любому. Ежу па талонах куплялі. А замест заняткаў у трэнажорнай зале разам з сяброўкай бралі вялікія камяні і кідалі іх праз сябе, каб нарасціць мышцы.

### Спартыўным быў і Маладзечна, і рэгіён

Маладзечна, ды і ўвесь рэгіён, па ўспамінах маёй субяседніцы, быў вельмі спартыўным. У маладзечанскай чыгуначнай школы (цяпер сёмая гімназія) былі добрыя паказчыкі ў футболе, першая школа славілася лёгкаатлетамі.

Адным з самых распаўсюджаных відаў спорту ў Маладзечне быў валейбол. Былі пэўныя поспехі і ў лёгкай атлетыцы. За горад выступаў бягун міжнароднага класа **Цімафеенка**. Выдатна праяўляў сябе ў скачках у вышыню кавалер ордэна Леніна **Уладзімір Сідараў**. На Маладзечаншчыне было некалькі спартыўных таварыстваў: «Лакаматыў», «Дынама», «Спартак», «Ураджай», «Чырвонае знамя», у якім Соф'я Аляксандраўна ў юнацтве нейкі час працавала.

У Смаргоні развіваўся баскетбол, у Вілейцы – лёгкая атлетыка. Моцны трэнер па лёгкай атлетыцы **Шырынскі** працаваў і ў Астраўцы. Тут ён падрыхтаваў чэмпіёнку Беларусі **Караліну Пятровіч**. Не менш спартыўнымі былі Ашмяны. Спартсменаў адтуль нашы хлопцы нават пабойваліся крыху, прызнаецца Соф'я Аляксандраўна.

### На спаборніцтвы – з кірзавым мячом

Мая субяседніца прыгадала, што на валейбольных пляцоўках не раз даводзілася выходзіць з траўмамі. Ды на пачатку яе «спартыўнай кар'еры» і абсталяванне жадала лепшага.

– Добрыя валейбольныя мячы з'явіліся толькі ў канцы 1950-х, – распавяла спартсменка. – Якое гэта было шчасце! Бо пачыналі мы гуляць цяжкімі кірзавымі мячамі на шнуроўках. У мяне ад іх усе пальцы павыбіваныя...

Нядаўна ўнук Соф'і Аляксандраўны ездзіў у Чэхію. Ведаеце, які падарунак ён прывёз бабулі па яе замове? Прыгожы сучасны валейбольны мяч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Вёска на Вілейшчыне, радзіма мастака Нікадзіма Сілівановіча і дырыжора Міхаіла Казінца.
2. Апісанне жыцця чалавека.
4. Прозвішча разведчыка, ураджэнца Валожыншчыны, які стаў прататыпам галоўнага героя кнігі Юльяна Сямёнава «Маёр Віхр».
5. Сасуд для піцця піва. Сёлетняя знаходка археолагаў у Ілі.
8. І скураныя чаравікі індзейцаў, і зручны жаночы абутак без абцасаў.
10. Горад у рэгіёне, колішніх уладанні Тышкевічаў.
12. Сум, туга.
14. Горад у рэгіёне, дзе сёлета зладзілі водны забег.
15. Рускі кампазітар, якога штогод згадваюць на Мядзельшчыне.
17. Шкоднік, які завёўся ў лясах на Астравеччыне.
18. Янтар.
19. Бог вінаградарства.
21. Лекавыя травы.
23. Драпежная рыба.
24. Імя вілейскага фатографа Бермана.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. Жаночае імя, назва аднаго з вершаў Максіма Багдановіча.
6. Вёска на Мядзельшчыне, радзіма паэта Максіма Танка.
7. Зварот да замужняй жанчыны ў Францыі і некаторых іншых краінах.
9. Прозвішча шляхціча з Ракуцёўшчыны, у якога ў 1911 годзе гасцяваў Максім Багдановіч.
11. Гасцініца, у якой загінуў паэт Янка Купала.
13. Тое, што гарлачык.
16. Старажытны горад, дзе так і не змаглі пабудаваць высокую вежу.
18. Кіраўнік брыгады.
20. Дарагая тая …, дзе радзіла мяне матка. Прыказка.
22. Жанчына, звычайна замужняя.
25. Салодкія ягады. Бываюць лясныя і садовыя.

## Адказы на крыжаванку з №31

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Радоўка 4. Караед 6. Нясцёркі 7. Птэразаўр 10. Перформанс 13. Разынкі 14. Буякі 15. Пейзаж 18. Адам 19. Возера 20. Бандароўна 24. Кітч 25. Гарнастай.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Раёўка 3. Пара 5. Вечар 8. Раздзялоўская 9. Гумно 11. Дуб 12. Цэзій 15. Пугачы 16. Дамавік 17. Казінец 21. Вітаўт 22. Гарнір 23. Ракаў

## У Лондане выйшла кніга смаргонскай пісьменніцы

**СМАРГОНЬ**

Днямі ў Вялікабрытаніі выйшла кніга Тані Скарынкінай A Large Czesław Miłosz with a Dash of Elvis Presley.

Гэта пераклад на англійскую мову яе кнігі эсэ «Шмат Чэслава Мілаша, крыху Элвіса Прэслі», якая адразу пасля выдання ў 2015 годзе прынесла аўтарцы шырокую вядомасць не толькі на радзіме. Ёю зацікавіўся прафесар Лонданскага ўніверсітэта знаны англійскі беларусіст Джым Дынглі, які і зрабіў пераклад.

У анонсе да кнігі напісана, што ў гісторыях Тані Скарынкінай жыццё малога беларускага мястэчка спалучана з развагамі пра сусветную літаратуру.

Брытанская кніга беларускай пісьменніцы заяўленая да ўдзелу ў Эдзінбурскім міжнародным кніжным фэсце. Аўтарку запрасілі на прэзентацыю, якая адбудзецца 19 жніўня.

Прадстаўляць Таню Скарынкіну будзе адзін з вядучых брытанскіх журналістаў Рэтэр Рос. Свой выбар арганізатары тлумачаць тым, што гэтыя аўтары шмат у чым падобна праяўляюцца ў сваіх творах.

Рэтэр Рос – аўтар кнігі «Палкасць Гары Бінга». «Гэта калекцыя бліскучых інтэрв'ю пра надзвычайны брытанскі характар, а кніга »Шмат Чэслава Мілаша, крыху Элвіса Прэслі« змяшчае неадназначныя абразкі з жыцця польска-беларускага памежжа», – пішуць выдаўцы.

**Паводле Радыё Свабода.**

## ● ГАРАСКОП 10-16 ЖНІЎНЯ


**АВЕН.** Цяпер вам не хочацца ні перамен, ні вострых адчуванняў, ніякія неўсвядомленыя жаданні не азмрочаць небасхіл вашага настрою. Але пара ўжо неадкладна паклапаціцца пра сваё здароўе, каб у далейшым не сутыкнуцца з праблемамі.


**ЦЯЛЕЦ.** Вы імкнецеся паўплываць на свет, навязаць навакольным сваю волю, а рабіць гэтага не варта. Прысвяціце дні сузіранню таго, што адбываецца вакол вас, аналізу самога сябе ці адносін з каханым чалавекам.


**БЛІЗНЯТЫ.** Пастарайцеся рабіць як мага больш добрых спраў. Бо калі ў перыяд свайго поспеху і шчасця вы нікога не забылі і не пакрыўдзілі, то шчасця вам прыбавіцца яшчэ больш.


**РАК.** З'явіцца цяга да фінансавых эксперыментаў – гэта можа быць як захапленне латарэяй, так і жаданне заняцца работай. І калі латарэяй заняцца можна смела, то ад больш рызыкоўнага і кардынальнага лепш устрымацца.


**ЛЕЎ.** Перыяд не з лёгкіх, але цяжкасць не ў вялікай колькасці спраў, а ў зацяжной стомленасці. Не адмаўляйцеся ад далёкай паездкі – такая магчымасць выпадае не часта.


**ДЗЕВА.** Гэтыя дні ўселяць аптымізм, падораць радасныя і незабыўныя моманты. Не чакайце імгненнага ўзнагароджання за сваю працу. Поспех прыйдзе, але не адразу і не без цяжкасцяў.


**ШАЛІ.** Гэта перыяд усведамлення таго, што неабходна, каб быць шчаслівым і плённа працаваць. Ён важны з пункту погляду фарміравання маральных установак. Вам прыйдзецца шмат чаму навучыцца. А яшчэ цяпер важна ацаніць свае ўчынкі, прыняць і зразумець памылкі – гэта аснова вашай будучыні.


**СКАРПІЁН.** Чакайце падзей, якія ўзбударажаць ваша ўяўленне і дазволяць дасягнуць больш высокага ўзроўню мыслення і самавыражэння. Удзяліце больш увагі свайму здароўю, паклапаціцеся пра тое, каб у вашым штодзённым рацыёне было больш гароднiны і фруктаў.


**СТРАЛЕЦ.** У асабістых адносінах магчымыя ўскладненні. Звязана гэта з тым, што вы шукаеце не простага пачуцця, а стараецеся знайсці ў адносінах уласную выгаду. Каб пазбегнуць канфлікту, умейце пайсці на кампраміс.


**КАЗЯРОГ.** Гэта час учынкаў, што ўмацоўваюць дух, якія потым успамінаюцца з асаблівай гордасцю і за якія не будзе сорамна. Спрыяльны час для разгадвання тайнаў і загадак. Падсвядомасць можа папярэджваць пра магчымыя непрыемнасці праз сны і збег абставінаў.


**ВАДАЛЕЙ.** Памятайце аб небяспецы ілюзій і падманаў. Нельга з дакладнасцю сказаць, што адбудзецца, але пазбягайце людзей, якія прапануюць вам фантастычныя планы ці спрабуюць захапіць вас сваімі фанатычнымі ідэямі. Вучыцеся «расшыфроўваць» сігналы, якія пасылае вам падсвядомае «Я» і ўнікаць ў знакі вышэйшай волі, што будуць сустракацца на вашым шляху. Такая здольнасць стане памочнікам у справах.


**РЫБЫ.** Не супярэчце спецыяльна людзям і не імкніцеся выклікаць у іх зайздрасць, паколькі яна паслужыць сігналам да ўдару ў адказ. А яшчэ накіроўвайце негатыўную энергію на ажыццяўленне канструктыўных планаў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 2 | 9 | | | 4 | | |
| 3 | 5 | | 6 | | | | | 1 |
| 1 | 6 | | | | | | 9 | 7 |
| | 9 | 6 | 3 | | 8 | | | |
| | | 5 | 1 | | | | | 4 |
| | 1 | 7 | | | | | | 3 |
| | 7 | 3 | 8 | | | | 2 | |
| 9 | | | 5 | 6 | | | | |
| | 2 | 8 | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

● НАДВОР'Е

## 11 жніўня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +20 / +28 | | +19 / +30 | | +19 / +23 | | +15 / +25 | |
| | 748 | ↑ 7 | 743 | ↑ 7 | 742 | → 7 | 738 | → 4 |
| Вільня | +20 / +27 | | +19 / +19 | | +16 / +21 | | +13 / +22 | |
| | 752 | ↑ 7 | 749 | → 5 | 748 | → 7 | 748 | ↗ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 5.42
Захад 20.53
Даўжыня дня 15.11

Усход 6.44
Захад 21.37
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +6,8°С у 1956 годзе
Максімальная тэмпература +34,7°С у 1992 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 16,3 мм у 2016 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● **Некалькі год запар маладыя людзі з Беларусі і Германіі збіраюцца разам у летнік, каб прыбраць вайсковыя пахаванні Першай і другой сусветных войнаў. На два дні летнік спынцца на Мядзельшчыне, каб добраўпарадкаваць нямецкія пахаванні часоў Першай сусветнай у вёсцы Пронькі.**

## Бяжыце ад спёкі з мядзельскімі спартсменамі і «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 16 жніўня ў Вілейцы правядуць Дзень донара

ВІЛЕЙКА

**Кабінет трансфузіялагічнай дапамогі Вілейскай ЦРБ 16 жніўня ад 8.30 да 12.30 правядзе Дзень донара, паведамляюць у суполцы бальніцы.**

Забор крові будуць праводзіць спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра трансфузіялогіі і медыцынскіх тэхналогій Мінска ў будынку паліклінікі, па адрасе: **Вілейка, Маркава, 29,** у актавай зале, на другім паверсе, на бясплатнай аснове.

Папярэдне можна запісацца ў трансфузіялагічнай дапамогі штодзённа ад 8.00 да 16.00 акрамя суботы, нядзелі і святочных дзён пры наяўнасці пашпарта або іншага дакумента, што пацвярджае асобу. Кабінет №513 знаходзіцца на пятым паверсе хірургічнага корпуса.

Тэлефон **(8-01771) 3-48-30.**

**Паводле сайта Вілейскай ЦРБ.**

## Фотафакт. Для каго веладарожка?..


Фота Таццяны КАСЬЯН.

У сераду ў гарадскім парку ў Маладзечне.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## У якую краіну вы марыце паехаць?



**Кірыл Давыдаў, аператар рэзальных машын:**
– Я хачу ў Італію. Падабаецца архітэктура, асабліва старой Італіі. Венецыя і Рым, на мой погляд, гэта рай, мару там апынуцца. А яшчэ гэтая краіна – радзіма Ферары і Ламбаргіні.



**Наталля Цюрына, эканаміст па збыце:**
– Была толькі ў Егіпце і ва Украіне, але хочацца трапіць на Кубу, чула, што там класныя людзі, музыка на кожным куце, смачная ежа і акіян побач. Таксама наведала б Трансільванію, што ў Румыніі. Наглядзелася фільмаў пра вампіраў накшталт «Дракулы» і «Ван Хельсінга», цяпер мару там пабываць.



**Сабіна Аліева, займаецца сезоннай працай:**
– Краіна мары для мяне – Амерыка. Мне 16 гадоў, планую паступаць вучыцца ў Літву на адваката, потым у магістратуру ў ЗША. У Амерыцы свабода слова, думак, рабі, што хочаш, працуй, кім пажадаеш.



**Ягор Лагуновіч, трэнер па тайскаму боксу, кікбоксінгу і рукапашнаму бою:**
– Вельмі хачу ў Іспанію, класная краіна, там зусім іншы менталітэт у людзей – больш добразычлівыя. І ў Балгарыю – там цёпла, мора, сонца і пляж – прыгажосць. Да гэтага наведваў Венгрыю, Польшчу і Маскву.



**Ірына Бубнова, студэнтка БДУ:**
– Мяне асабліва прыцягвае Венецыя. Што можа быць больш рамантычным, чым плыць па старадаўнім горадзе на вадзе ў кампаніі гандальера.



**Настасся Жахавец, маці дваіх дзяцей:**
– Магу паехаць, куды пажадаю, магчымасці дазваляюць. Была ў Францыі, Бельгіі, Германіі, Іспаніі, Італіі, Грэцыі, у Расіі, канешне. Цяпер жыву ў Нідэрландах, у Маладзечна прыехала да бацькоў у госці.



**Міраслаў Таргові̇ч, намеснік генеральнага дырэктара па праектаванню:**
– Краіны мары ў мяне няма. Паўсюль хораша па-свойму. Недзе клімат лепей, недзе краявіды прыгажэйшыя, недзе магчымасцяў, напэўна, болей. А ў роднай Беларусі – сваякі.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№32 (1215) 10.08.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 544. Падпісана ў друк у 9.00 9.08.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.